# ЗА ЎДЗЕЛ паляўнічых мас і арганізацый
# У ПРАВЯДЗЕНЬНІ СЕНАЎБОРКІ

Сенаўборка рашаючы вучастак барацьбы за кармы і, у канчатковым выніку, за вырашэньне жывёлагадоўчай праблемы. Гэтым кароткім сказам акрэсьліваецца вялізарнейшае гаспадарча-палітычнае значэньне сенаўборкі. Сена ў кармавым балянсе нашай жывёлагадоўлі зьяўляецца асноўным і галоўным прадуктам. З гэтага вынікае, што стварэньне моцнай кармавой базы зьяўляецца падставным зьвяном у вырашэньні жывёлагадоўчай праблемы. Менавіта ў бальшавіцкім правядзеньні сенаўборкі ляжыць ключ да вырашэньня жывёлагадоўчай праблемы, бо без належнага павялічэньня і па колькасьці і па якасьці кармавой базы ня можа быць і гутаркі аб вырашэньні жывёлагадоўчай праблемы.

Аднак, нельга сказаць, што гэта разуменьне вялізарнейшага гаспадарча-палітычнага значэньня сенаўборкі ў справе вырашэньня жывёлагадоўчай праблемы добра ўсьвядомлена шырокімі коламі партыйных, камсамольскіх, савецкіх, зямельна-калгасных і паляўнічых арганізацый.

„Спачатку адсеемся, а пасьля возьмемся за сенаўборку"—так звычайна разважаюць у нашых калгасах і сельсаветах. У выніку гэтай апартуністычнай стаўкі на чарговасьць кампаніі—аддзяленьня сяўбы ад сенаўборкі, праполкі, папаравай кампаніі атрымоўвалася так, што сенаўборцы не заставалася належнай увагі. Гэта тлумачыцца тым, што пачатак сенаўборкі ў паўднёвых раёнах саўпадаў з завяршэньнем пасеўнай і разгарам праполачнай. І ў выніку сенаўборачнай кампаніі не заставалася належнага часу. Сенаўборка пачыналася са значным спазьненьнем і ў самы разгар позьняй касьбы адрываліся рабочыя рукі праполкай, папаравай кампаніі і ўборкай азімых. Вынікам такой стаўкі на чарговасьць работ ў адносінах да сенаўборкі былі недапушчальна вялікія страты сена. У практыцы мінулых год даходзіла да таго, што нават у некаторых саўгасах і калгасах заставаліся дзесяткі га няскошаных сенажацяй.

Асабліва вялізарнейшае значэньне касьба набывае ў сьвеце апошніх рашэньняў партыі і ўраду. Зусім зразумела, што скарачэньне напалову жывёлазагатовак у мэтах далейшага ўмацаваньня калгаснай жывёлагадоўлі і разгортваньня мяснога гандлю калгасамі, калгасьнікамі і працоўнымі-аднаасобнікамі, а таксама дырэктыва ЦК аб тым, што „Задача партыі заключаецца ў тым, каб у кожнага калгасьніка была свая карова, дробная жывёла, птушка", патрабуюць для свайго ажыцьцяўленьня значнага павялічэньня кармавой базы, а павялічэньне кармавой базы магчыма ў выніку бальшавіцкага правядзеньня сенаўборкі—у выніку барацьбы за якасьць сенаўборкі.

Трэба ведаць, што пашырэньне плошчаў сенажаці за кошт мэліарацыі, расьцяробак хмызьнякоў мы маем ня надта вялікае. У сенаўборцы, таксама як і ў сяўбе, вырашае якасьць работы—ужываньне правіл агратэхнікі. Гэта павінна добра ўсьвядоміць усе арганізацыі, у тым ліку і паляўнічыя і, зрабіць з гэтага адпаведныя вывады—змагацца за высокую якасьць сенаўборкі.

Мільёны літраў недадоенага малака, тысячы тон недаатрыманага мяса—вось вынікі дрэннай сенаўборкі. Ліквідаваць недастачу гэтых каштоўнейшых прадуктаў можна толькі шляхам высокаякаснай сенаўборкі.

Калі-б кожны калгас, кожны працоўны аднаасобнік дамогся правіл агратэхнікі ў сенаўборцы, ён бы падвоіў збор сена. Звычайна мы косім сена вельмі позна, калі трава прастаяла, калі самыя сакавітыя гатункі траў ужо адцьвілі. А гэта вядзе да страт укосу і бялка ў сене. Навуковымі досьледамі ўстаноўлена, што ў траве пасьля калашэньня з кожным днём значна скарачаецца самая каштоўная спажыўная матэрыя—бялок. Вопытна-паказальнымі станцыямі ўстаноўлена, што спазьненьне з уборкай сенажацяй на 10-12 дзён зьніжае колькасьць кармовых адзінак і бялкоў у сене на 30-35 проц.

Раньні ўкос апрача гэтых пераваг дасьць магчымасьць зьняць другі ўкос. А другі ўкос, які ў мінулыя гады амаль што не практыкаваўся, у сенаўборку гэтага году пастаўлен партыяй і ўрадам, як першачарговая задача, шляхам вырашэньня якой можна дабіцца пашырэньня на новыя мільёны пудоў кармавой базы.

Сенаўборку трэба паставіць па ўсіх правілах агратэхнікі. Трэба дамагчыся, каб калгасы і аднаасобныя гаспадаркі паўсямесна прыступілі да сяўбы ў час каласаваньня траў, або ў пачатку квітненьня матыльковых расьлін. Бо толькі раньняя касьба дасьць магчымасьць зрабіць другі ўкос.

Галоўнае, што трэба падкрэсьліць зараз—гэта тое, што сенаўборку трэба пачаць сваячасова і правесьці ў максымальна кароткія тэрміны.

Саюзы паляўнічых павінны быць у першых шэрагах барацьбы за посьпех сенаўборкі. Задача кожнага члена саюза заключаецца ў тым, каб уключыцца ў тую ўдарную работу, якая праводзіцца партыйнымі, савецкімі і зямельна-калгаснымі арганізацыямі па падрыхтоўцы і правядзеньні сенаўборкі. Зараз у першыя дні пачатку касьбы трэба праверыць, ці маюцца ў калгасах, саўгасах і сельсаветах пляны сенаўборкі, ці ўсюды працоўным аднаасобнікам адведзена сенажаць, ці закончан рамонт уборачнага інвэнтара. І ня толькі выявіць недахопы ў гэтых асноўных вагарах пасьпяховага правядзеньня сенаўборкі, але дабіцца выпраўленьня іх на хаду.

Уменьне і гатоўнасьць раённых таварыстваў саюзу паляўнічых на справе змагацца за вырашэньне жывёлагадоўчай праблемы, за павялічэньне прадукцыі мяса, на справе змагацца за выкананьне пляну жывёлазагатовак і разгортваньня гандлю мясам партыя будзе ацэньваць у першую чаргу іх удзелам у пасьпяховым правядзеньні сенаўборкі.

**Янскі.**

# ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ

**ОРГАН КААПЭРАЦЫЙНА-ПРАМЫСЛОВАГА САЮЗУ ПАЛЯЎНІЧЫХ БЕЛКАХОТСАЮЗ.**


ЗЬМЕСТ






№ 7

ЛІПЕНЬ

1932 г.


# Дванаццаць год барацьбы за пабудову сацыялізму

11 ліпеня 1920 г. героічная рабоча-сялянская Чырвоная армія вызваліла Савецкую Беларусь ад белапольскай акупацыі. 12-ю гадавіну гэтай слаўнай даты БССР адзначае пераможным завяршэньнем 5 гадовага пляну разьвіцьця народнай гаспадаркі і культуры ў чатыры гады і ўступленьнем у 2-ю пяцігодку пабудовы бяскласавай грамады.

Соцыяльна нацыянальнае і дзяржаўнае вызваленьне працоўных мас БССР было дасягнута ў рашучай барацьбе з беларускай, усерасійскай, польскай і нямецкай контррэволюцыяй. Пасьля заключэньня Рыжскага міру, БССР не адразу ўступіла на шлях мірнага гаспадарча-культурнага будаўніцтва. Доўгі час дывэрсыйныя банды, арганізаваныя белапалякамі, імкнуліся сарваць гаспадарчае і культурнае будаўніцтва БССР. Аднак, ні якія мэтады контррэволюцыйнай дзейнасьці беларускай і польскай буржуазіі не маглі сарваць магутнага процэсу умацаваньня пралетарскай дыктатуры, аднаўленьня зруйнованай гаспадаркі і бурнага росквіту сацыялістычнага будаўніцтва.

Пад выпрабаваным кіраўніцтвам Ленінскай партыі ў 12 год са дня вызваленьня ад белапольскай акупацыі, на аснове вялізарнейшых посьпехаў у індустрыялізацыі краіны мы дамагліся рашучых перамог у справе сацыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі. Звыш паловы бядняцка серадняцкіх гаспадарак аб'ядналіся ў калгасы, а 9 раёнаў БССР у асноўным завяршылі калектывізацыю і на яе аснове ліквідацыю кулацтва як клясы.

Ленінскае пытаньне „хто каго?“ вырашана ня толькі ў прамысловасьці, але і ў сельскай гаспадарцы на карысьць сацыялізму супроць капіталізму.

Вялізарнейшыя посьпехі ў справе сацыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі забясьпечылі нябачныя тэмпы пашырэньня пасеўных плошчаў. Так, напрыклад, пасеўная плошча пад ленам у 2-ю калгасную вясну павялічылася з 140 тыс. га да 430 тыс. га. Яравых пасеваў на кожную калгасную сям'ю ў сярэднім прыпадае 4,04 га, а на сям'ю аднаасобнай гаспадаркі 2,43 га.

Калгаснае сялянства стала цэнтральнай фігурай земляробства, асноўным і галоўным вытворцам ня толькі збожжа, але і важнейшых сельска-гаспадарчых тэхнічных культур. На палёх былой адсталай, прыгнечанай царскай правінцыі—у сучаснай БССР—замест сахі пераможна гудзіць трактар. У сельскай гаспадарцы мы зараз маем непараўнальна большую колькасьць сельска-гаспадарчых машын і складанага інвэнтару. У буйных прамысловых цэнтрах БССР пабудаваны гіганты-заводы па вытворчасьці складаных сельска-гаспадарчых машын. Сетка МТС—апорных пунктаў мэханізацыі сельскай гаспадаркі—расьце з года ў год.

Так, замест 27 МТС у мінулым годзе, у бягучую веснавую сяўбу на сацыялістычных палёх БССР працуе 56 МТС з трактарным паркам у 1571 адзінку ці 18205 конскіх сіл. Калі ў мінулым году МТС апрацоўвалі 241690 га, дык у бягучую пасеўкампанію МТС асвоілі вытворчымі плянамі і прынялі для апрацоўкі 524.315 га. Калгасы, якія абслугоўваюцца МТС маюць значныя гаспадарчыя перавагі ў параўнаньні з іншымі калгасамі. Разьмер пасеваў на 1 двор, зяблівае ворыва, прадукцыйнасьць працы і даходнасьць значна вышэйшая ў калгасах, якія абслугоўваюцца МТС.

На аснове разгортваньня сельска гаспадарчага машынабудаўніцтва і пашырэньня тэхнікі МТС „рабочая кляса Савецкага саюза цьвёрда і ўпэўнена вядзе наперад справу тэхнічнага пераўзбраеньня свайго саюзьніка—працоўнага сялянства“ (Сталін).

Працэс мэханізацыі і арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў зьяўляецца працэсам перавыхаваньня калгасьніка—учарашняга аднаасобніка,—ператварэньня яго ў сьвядомага і актыўнага будаўніка бяскласавай сацыялістычнай грамады. Бо толькі **„матар'яльная база, тэхніка, прымяненьне трактароў і машын у земляробстве ў масавым маштабе, электрыфікацыя ў масавым маштабе“** (Ленін) можа канчаткова перавыхаваць дробнага землеўласьніка

На аснове вырашэньня цэнтральнай задачы калгаснага будаўніцтва—задачы арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў і машынізацыі сельскай гаспадаркі—БССР шпаркімі тэмпамі ідзе да поўнага завяршэньня сацыялістычнай перабудовы нашай вёскі, да поўнага зьнішчэньня супярэчнасьці паміж горадам і вёскай. БССР, як і ўвесь Савецкі саюз „з краіны дробнага і драбнейшага земляробства ператварыўся ў краіну самага буйнага ў сьвеце земляробства, на аснове калектывізацыі, разгортваньня саўгасаў і машыннай тэхнікі. Гэта перамога сацыялізму, якая рашае самую важную, самую цяжкую задачу пралетарскай рэвалюцыі, мае сусьветна-гістарычнае значэньне“ (17 партканфэрэнцыя).

Поўная калектывізацыя вёскі ў другой пяцігодцы і ўзбраеньне сельскай гаспадаркі перадавой машыннай тэхнікай ператворыць сельска-гаспадарчую працу ў разнавіднасьць працы індустрыяльнай.

„Асноўнай палітычнай задачай 2-й пяцігодкі зьяўляецца канчатковая ліквідацыя капіталістычных элемэнтаў і клясаў наогул, поўнае зьнішчэньне прычын, якія параджаюць клясавую розьніцу і эксплёатацыю, і перажыткаў капіталізму ў экономіцы і ў сьвядомасьці людзей, ператварэньне ўсяго працоўнага насельніцтва краіны ў сьвядомых і актыўных будаўнікоў бясклясавай сацыялістычнай грамады“ (з рэзалюцыі 17 партканфэрэнцыі).

У 2-й пяцігодцы ў нас канчаткова будуць ліквідаваны капіталістычныя элемэнты і клясы наогул. Да канца другой пяцігодкі мы завяршым перабудову сацыялістычнай грамады, бо **„сацыялізм ёсьць зьнішчэньне клясаў“** (Ленін).

І БССР узьнімаецца на нязьмерную вышыню. Эканоміка яе дасягнула нябывалага росквіту; такога ж росквіту дасягнула і нацыянальная па форме, а сацыялістычная па зьмесьце культура БССР.

А ў гэты час на Заходняй Беларусі, дзе налічваецца звыш 3-х мільёнаў беларускага насельніцтва, польскі фашызм ліквідаваў усе беларускія пачатковыя школы. Зараз польскі фашызм рознымі правакацыямі падрыхтоўвае ліквідацыю 2-х беларускіх гімназій. На беларускай мове ў Заходняй Беларусі не выдаецца ніводнай газэты і ніводнай кніжкі. Лёзунг „галоўкі“ аб тым, што польскі фашызм „не дапусьціць існаваньня самастойнай беларускай культуры, бо самае вялікае, што можна цярпець пакуль-што—гэта беларускую народную школу, з тым аднак, каб гэта школа не скарыстала паблажку ўраду для беларускага сэпаратызму, а наблізіла (чытай сполёнізавала!—рэд.) беларускія масы да польскай культуры“,—гэты лёзунг пасьлядоўна праводзіцца ўсім апаратам ваенна-каленіяльнага прыгнечаньня пры чыннай дапамозе беларускіх нацыянал фашыстаў—Астроўскіх, Луцкевічаў і інш. Больш 70 тыс. дзяцей школьнага ўзросту на Заходняй Беларусі не ахоплены нават польскай школай.

Зусім працілеглы малюнак мы маем у БССР. Лічбы разьвіцьця нашай нацыянальнай па форме, сацыялістычнай па зьмесьце культуры маюць толькі тое параўнаньне, што ў нас пераможнае разьвіцьцё наперад, а там, па той бок граніцы, рэгрэс і нацыянальнае прыгнечаньне. БССР мае сваю Акадэмію навук, 38 навукова-дасьледчых інстытутаў, Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт і 32 вышэйшых інстытуты з колькасьцю студэнтаў—14.421. Агульная колькасьць ахопленых рознымі відамі навучаньня перавышае 2 мільёны, пры насельніцтве ў 5.200.000. **Царская спадчына на Беларусі—70 проц. няпісьменных—у асноўным ліквідавана да 1-га мая г. г., а ўсе гэтыя лічбы гавораць самі за сябе.**

Там, на Заходняй Беларусі, пад ботам белапольскай акупацыі—поўны развал усёй гаспадаркі. Эканамічны крызіс на Заходняй Беларусі паралізаваў усё гаспадарчае жыцьцё. Завод за заводам, фабрыка за фабрыкай, пад ударамі крызісу спыняюць сваю работу. Новыя тысячы рабочых папаўняюць армію беспрацоўных, армію галодных, армію бяздольных афяр панаваньня сацыяльнага і нацыянальнага прыгнечаньня. Беспрацоўе і голад сярод шырокіх працоўных мас бесьперапынна расьце. Яшчэ горшае становішча на вёсцы.

„Хто хоча бачыць галечу ва ўсёй яе жудаснай нагаце,—піша адзін з буржуазных публіцыстаў фашысцкай Польшчы Сьвентахоўскі,—няхай прыглядзіцца да яе на вёсцы. Тут большасьць насельніцтва ядуць усяго 2 альбо адзін раз у дзень, пераважна бульбу. Я ведаю сем'і, якія ўжо месяцамі ня бачылі сапраўднага хлеба. Пякуць яго амаль выключна з прымешкаю бульбы. Над гэтай агалелўшай масай кружацца, як ястрабы, судовыя выканаўцы для спагнаньня падаткаў, якіх сяляне ненавідзяць і баяцца больш чым сьмерці, пажару, граду, крадзяжу і ўсякага іншага няшчасьця“.

„Сёньня няма ў Польшчы чалавека,—як пісаў у перадавым артыкуле сацыял-фашысцкі Работнік,—што ня спыніўся-б над выказанымі ў свой час словамі пана Вітаса (лідэр польскай кулацкай партыі „ПЯСТ“—рэд.), які сказаў: **„Есьць дрэнна і будзе яшчэ горш“...**

„...Амаль на ўсіх буйных фабрыках рабочыя і работніцы працуюць толькі па 2-3 дні, а найбольш 4 дні на тыдні; толькі ў аднэй нафтавай прамысловасьці работа працягваецца 5 дзён на тыдзень“.

Прыведзеныя вытрымкі са слоў польскай фашысцкай прэсы яскравым чынам характарызуюць сучаснае становішча фашысцкай Польшчы і яе каленій—Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны. Польскі фашызм у тупіку крызісу, напярэдадні ваенных авантур.

Каб выратаваць капіталізм польскі фашысцкі ўрад з халодным разьлікам імкнецца прыдушыць рэвалюцыйны рух драканаўскімі законамі супроць рэвалюцыянэраў.

Зьверскія крывавыя катаваньні палітзьняволеных, якія адбываюцца ў засьценках дэфэнзывы і аб якіх так шмат пісалася ў нашым і замежным друку, узаконены фашысцкім урадам,—зьяўляецца сыстэмай заспакаеньня тылу ў мэтах падрыхтоўкі „крыжовага паходу“ на Савецкі саюз“.

Азьвярэлы польскі фашызм лютай ненавісьцю да рэвалюцыйных рабочых і сялян Заходняй Беларусі накіраваў у апошні час удары на культурна-асьветную арганізацыю працоўных—Таварыства Беларускай Школы. Таварыства Беларускай Школы было арганізавана ў Вільні ў 1921 гаду і з года ў год пашырала сваю работу на ўсю Заходнюю Беларусь. І гэтай адзінай культурна-асьветнай арганізацыяй была разгорнута па ўсёй Заходняй Беларусі вялікая работа: чыталіся даклады ў гуртках, засноўваліся бібліятэкі-чытальні, будаваліся народныя дамы, ставілі спэктаклі і г. д. Зараз фашызм разграміў і гэтую адзіную культурна-асьветную арганізацыю.

Гэта чарговы крок сацыяльнага і нацыянальнага прыгнечаньня дыктатурай Пілсудзкага працоўных Заходняй Беларусі зьяўляецца непасрэдным крокам падрыхтоўкі да ўзброенага нападу на Савецкі саюз. Развал гаспадарчай сыстэмы Польшчы яскрава выражаецца ў тым, што яна як жандар загніваючай Эўропы, рыхтуе ўзброены напад на СССР.

Фашысцкая Польшча зьяўляецца, як дэлікатна выражаюцца польскія дыплёматы „культурным бар'ерам Эўропы". Гэта азначае, што польскі фашызм узяў на сябе адну з галоўнейшых роляй у інтэрвэнцкіх плянах сусьветнага імпэрыялізму, гэта азначае, што Польшча будзе праваднікам ўзброенай авантуры супроць СССР.

Капіталісты шукаюць выхаду з тупіка эканамічнага крызісу ў вайне супроць Савецкага саюза. Вайна ўжо вядзецца ў дастаткова шырокім разьмеры, але яшчэ большы размах прымае ваенная падрыхтоўка. Тая вайсковая гарачка, што ўжо адчуваецца на капіталістычнай біржы, гаворыць аб тым, што капіталісты рыхтуюцца да вялікай вайны і што небясьпека перарастаньня вайны, якая адбываецца ўжо на Ўсходзе, у сусьветна-імпэрыялістычную бойню і контррэвалюцыйную вайну супроць СССР— зараз моцна, як ніколі.

Небясьпека вайны грознай ценьню навісла над усім міжнародным пралетарыятам. Ня толькі на Усходзе, але і на Захадзе ідзе ліхаманкавая падрыхтоўка да вайны. Польскія імпэрыялісты адкрыта пішуць аб тым, што „лёс Польшчы рашаецца на палёх Манчжурыі". Ваенныя заводы Эўропы і Амэрыкі адпраўляюць адзін за другім эшалёны ўзброеньня на Далёкі Усход.

Уся гэта складанейшая міжнародная абстаноўка, якая характарызуецца рэальнай небясьпекай вайны, патрабуе ад нас патраеньня тэмпаў барацьбы за завяршэньне плянаў першай пяцігодкі разьвіцьця народнай гаспадаркі і культуры з тым, каб праз гэта падрыхтаваць пераход да другой пяцігодкі пабудовы бясклясавай грамады. Пяцігодка—аснова нашай абароны. Небясьпека вайны, якая навісла над намі грознай хмарай, патрабуе ад нас узмоцненых, сапраўды бальшавіцкіх тэмпаў у справе ваенізацыі, у падрыхтоўцы ўсяго нашага працоўнага насельніцтва стаць на абарону сацыялістычнага будаўніцтва і ў патрэбны час даць належны адпор імпэрыялістычным драпежнікам.

Саюз паляўнічых павінен прарабіць у зьвязку з гэтым вялізарнейшую работу, бо стаўка на самацёк у правядзеньні яе і поўная бязьдзейнасьць мясцовых саюзаў паляўнічых, што ў значнай ступені наглядаецца зараз, зьяўляюцца на сёнешні дзень недапушчальнымі, зьяўляюцца злачынствам.

У дзень 12-годзьдзя вызваленьня БССР ад белапольскай акупацыі кожнае зьвяно саюза паляўнічых павінна праверыць, што праароблена ім у галіне падрыхтоўкі да абароны нашай краіны, у галіне ўзмацненьня ваенізацыі працоўнага насельніцтва. Праверыць і вызначыць практычныя мерапрыемствы гэтай работы, прасачыць за тым, як выконваюцца яны ва ўсіх паляўнічых зьвеньнях і асабліва на мясцох— вось задача саюза паляўнічых.

Наша палітыка ёсьць палітыка міру, але мы павінны быць гатовымі ў патрэбны момант даць адпор малейшай спробе сусьветнага імпэрыялізму сарваць нашае сацыялістычнае будаўніцтва

# Да ўсіх калгасьнікаў, беднякоў і серадлякоў-аднаасобнікаў БССР

Таварышы! 11 ліпеня спаўняецца 12 год са дня вызваленьня Беларусі ад белапалякаў. Шлях ад Кастрычніка 1917 году і ад 11 ліпеня 1920 г.—шлях барацьбы і перамог Савецкага саюзу і яго неадлучнай часткі БССР на ўсіх вучастках сацыялістычнага будаўніцтва.

Пад выпрабаваным кіраўніцтвам ленінскай камуністычнай партыі і яе кіраўніка т. Сталіна рабочая кляса і працоўнае сялянства дасягнула буйнейшых посьпехаў у барацьбе за пабудову сацыялізму.

Ужо зараз непазнаваемай стала наша краіна. Вырасьлі новыя буйнейшыя прамысловыя цэнтры, новыя гіганты мэталюргіі, машынабудаўніцтва, трактарабудаўніцтва, вырасьлі гіганцкія прадпрыемствы сусьветнага значэньня. Краіна пакрываецца сеткай магутных электрастанцый. З году ў год паляпшаецца матар'яльна-бытавое становішча шырокіх мас працоўных.

Вялізарнейшыя перамогі дасягнуты і ў сацыялістычнай перабудове сельскай гаспадаркі. На аснове сацыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі нашы калгасы і саўгасы занялі пануючую ролю ў сельскай гаспадарцы. Савецкі саюз з краіны дробнага земляробства ператварыўся ў краіну самага буйнага ва ўсім сьвеце земляробства. На аснове суцэльнай калектывізацыі праходзіць ліквідацыя кулацтва як клясы.

Выкананьне праграмы „трэцяга рашаючага году пяцігодкі" забясьпечыла ў нашай краіне пабудову фундаманту сацыялістычнай эканомікі. Ленінскае пытаньне „хто каго" вырашана поўнасьцю і беспаваротна ў карысьць сацыялізму як у горадзе, так і ў вёсцы.

Адначасова ў краінах капіталізму абвастраецца і паглыбляецца жорсткі эканамічны крызіс. Для капіталізму апошнія гады—гады ўпадку ўсіх галін гаспадаркі: спыняюцца фабрыкі, заводы, тушацца домны, скарачаецца здабыча вугалю, падае вытворчасьць машын,—усё ўзмацняецца масавае разарэньне працоўнага сялянства.

Жорсткае і ўсё растучае беспрацоўе выкідвае на вуліцы новыя тысячы беспрацоўных. Шпаркімі тэмпамі ідзе абнішчаньне працоўных мас.

Звыш 40 мільёнаў пралетараў выкінуты на вуліцу—на галодную сьмерць.

У суседняй з намі фашысцкай Польшчы і ў акупаванай ёю Заходняй Беларусі і Заходняй Украіне разгульвае фашысцкі тэрор. Сотні і тысячы лепшых нашых братоў па клясе кінуты на катаваньне ў турмы. Амаль штодзенна на прысудах вайскова-палявых судоў праз павешаньне караюцца сьмерцю лепшыя прадстаўнікі рабочай клясы і працоўнага сялянства.

Польскі фашызм зачыняе апошнія беларускія школы, ліквідуе Таварыства Беларускай Школы (ТБШ)—гэта новы крок у падрыхтоўцы да ўзброенага нападу на СССР.

У завяршаючым годзе пяцігодкі мы павінны ўлажыць на капітальнае будаўніцтва на пабудову новых фабрык і заводаў, МТС, саўгасаў звыш 21 мільярду рублёў. Гэтыя сродкі мы павінны адшукаць унутры нашай краіны. Капіталістычныя краіны крэдытаў нам не дадуць таму, што яны добра ведаюць, што посьпехі нашага сацыялістычнага будаўніцтва набліжаюць сусьветную пралетарскую рэвалюцыю, узмацняюць абароназдольнасьць СССР, чым набліжаецца пагібель капіталістых.

Таму мы павінны сваімі працоўнымі капейкамі будаваць сацыялізм.

Выпушчаная па патрабаваньні саміх-жа працоўных пазыка імя „чацьвертага завяршаючага году пяцігодкі“ зьяўляецца магутным укладам у наша сацыялістычнае будаўніцтва. Рэалізацыя гэтай пазыкі павінна быць праведзена па-ўдарнаму. Па прыкладу перадавікоў рабочых фабрык і заводаў, калгасная вёска павінна не адставаць. Калгасьнікі павінны сваім уласным прыкладам зьявіцца застрэльшчыкамі рэалізацыі пазыкі і сярод аднаасобнікаў— беднякоў і серадdespite нікоў.

Няўхільны ўздым сельскае гаспадаркі Савецкага саюзу, арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў, рэалізацыя апошніх пастаноў партыі і ўраду аб збожжа-мясазагатоўках і разгортваньні калгаснага гандлю, рост на гэтай базе матар'яльнага і бытавога становішча калгасьнікаў і ўсяго працоўнага сялянства—даюць магчымасьць ня толькі выканаць, але і перавыканаць плян рэалізацыі пазыкі на вёсцы.

Мы, калгасьнікі калгасу „Гігант“, Халопеніцкага сельсавету, Крупскага раёну, у пасеўную кампанію 1932 г. атрымалі новую перамогу—занялі адно з першых месц у раёне, выканалі плян на 108 проц. Мы не здаём свайго пяршынства і ў рэалізацыі пазыкі імя „чацьвертага завяршаючага году пяцігодкі“.

На аснове разгортваньня шырокай палітычна-масавай работы, разгортваньня сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, разгортваючы новыя формы масавай работы (насьценгазэта, дошка тэмпаў, буксір і г. д.), мы дасягнулі выкананьня заданьня па падпісцы на новую пазыку на 140 проц. Падпіска складае 2 тыс. 800 руб. супроць заданьня ў 2 тыс. руб. Падпіскай ахоплены ўсе калгасьнікі. Мы датэрмінова ўносім першы ўзнос па пазыцы 700 р. да 5 ліпеня. Адначасова мы ўносім датэрмінова 500 руб. сельскагаспадарчага падатку. Калгас цалкам датэрмінова пагасіў усе крэдыты ў суме 5 тыс. рублёў. Калгас ня мае ніякіх грашовых запазычанасьцяй перад дзяржавай.

З ліку лепшых ударнікаў-калгасьнікаў мы насылаем нашу буксірную брыгаду ў калгас „Пралетарская перамога“, Грыцкаўскага сельсавету, і ў адстаючы калгас нашага сельсавету „Будаўнік культуры“. Адначасова мы бярэм на грамадзкі буксір аднаасобнікаў нашага сельсавету.

Таварышы калгасьнікі, бедпякі і серадпякі-аднаасобнікі! Да дня вызваленьня Беларусі ад белапалякаў—11 ліпеня—БССР павінна ня толькі выканаць, але і перавыканаць плян рэалізацыі пазыкі.

Таварышы калгасьнікі! Сваім прыкладам вы павінны ў падпісцы на новую пазыку дапамагчы рэалізаваць яе сярод беднякоў і серадпякоў-аднаасобнікаў.

Наперад да новых перамог на подступах да другой пяцігодкі!

# Па-бальшавіцку змагацца за рэалізацыю пазыкі „4-га завяршаючага“

Вышэй мы надрукавалі адозву калгасьнікаў калгасу „Гігант“ да ўсіх працоўных БССР аб бальшавіцкім правядзеньні рэалізацыі пазыкі „4-га завяршаючага“. Адозва яскрава падкрэсьлівае палітычны сэнс і значэньне гэтай справы для кожнага рабочага, калгасьніка, працоўнага аднаасобніка. Разам з гэтым яна паказвае і тыя шляхі, па якіх павінна весьціся работа ў галіне рэалізацыі пазыкі і становіць сабою ўзор бальшавіцкага змаганьня за яе.

Зараз ня трэба даводзіць, што пасьпяховае і поўнае разьмяшчэньне пазыкі паміж працоўным насельніцтвам Савецкага саюзу ў такой-жа меры краняецца нашых паляўнічых арганізацый і грамадзкасьці, як і ўсіх іншых. Бо зусім зразумела, што барацьба за гэту справу—няўхільны абавязак кожнага райтаварыства, вясковай (нізавой) паегул ячэйкі, кожнага паасобнага паляўнічага.

А таму яны, праводзячы гэту важнейшую палітычную кампанію, не павінны забываць скарыстаць для гэтай мэты ўсе магчымыя сродкі работы: растлумачальныя гутаркі, насьценныя газэты, мэтады сац. спаборніцтва і ўдарніцтва і г. д. А з гэтага пункту гледжаньня названая вышэй адозва можа служыць найлепшым узорам. Яна можа служыць яскравым паказчыкам таго, якім чынам можна і трэба мабілізаваць масы на барацьбу за рэалізацыю пазыкі Апошняе-ж у дачыненьні да паляўнічых саюзаў і паляўнічай грамадзкасьці павінна праводзіцца пад лёзунгам—**ніводнага паляўнічага без падпіскі на пазыку „4-га завяршаючага“!**

С.

# Узяць прыклад з калгаса „ГІГАНТ“

*(Крупскі раён)*

Калгас „Гігант“, Халопеніцкага сельсавету, зьяўляецца адным з буйнейшых калгасаў раёну.

Калгас па-ўдарнаму правёў веснавую сяўбу з выкананьнем пляну на 108 проц. Зараз заканчваецца прапалка і распачата сенаўборачная кампанія.

На адным з адказьнейшых вучасткаў работы ў рэалізацыі пазыкі імя „Чацьвертага завяршаючага году пяцігодкі“ прарыў. Заданьне выканана толькі на 44 проц. Насьценгазэта „Голас калгасьніка“ ў спэцыяльным нумары, прысьвечаным рэалізацыі пазыкі, сыгналізуе аб прарыве, паказвае прычыны прарыву і робіць вывад, што заданьне па рэалізацыі новай пазыкі калгасам можа быць ня толькі выканана, але і перавыканана. Газэта паказвае перадавікоў і адстаючых.

Насьценгазэтай арганізавана дошка тэмпаў. Асьвятляецца ход падпіскі па брыгадах. У падпісцы на новую пазыку разгортваецца сацыялістычнае спаборніцтва паміж брыгадамі, а ў брыгадах—індывідуальнае.

29-га чэрвеня ўвечары пасьля работы, на вуліцы, каля канцылярыі калгасу, вакол насьценгазэты і дошкі тэмпаў сабралася група калгасьнікаў. Падыходзіць група, запытвае ў раней сабраўшыхся, „што новага піша газэта“.—Прарыў вось у падпісцы на пазыку,—адказваюць раней прыйшоўшыя.

— Прарыў!.. Патрэбна ліквідаваць, у перадавым калгасе не павінна быць прарыва! Нам сорамна быць адстаючымі, мы занялі пяршынства ў сябе, у выкананьні другіх гаспадарча-палітычных кампаній і ў падпісцы на новую пазыку сваё пяршынство мы не павінны здаваць!

Па ініцыятыве насьценгазэты распачаўся лятучы мітынг па пытаньні ліквідацыі адставаньня ў падпісцы на новую пазыку. Слова ўзяў старшыня камісіі садзейнічаньня тав. **Мацкевіч.** Ён гаворыць каротка і выразна:

— Я сёньня быў у калгассаюзе, там мне сказалі, што наш калгас у падпісцы на пазыку адстае, гэтае адставаньне павінна быць ліквідавана. Пяршынство, якое мы занялі па сяўбе, пяршынство, якое было за намі ўвесь час па выкананьні фінансавага пляну,—не павінна быць здана і ў падпісцы на новую пазыку. Раней на пазыку „чацьвертага завяршаючага“ я падпісаўся на 100 руб., цяпер я падпісваюся яшчэ на 50 руб. і выклікаю на сацыялістычнае спаборніцтва ўсіх калгасьнікаў.

— Выклік Мацкевіча я прымаю, падпісваюся на 100 руб.,—заявіў **Буйвідовіч Антось.**

— Адстаючым я ня хочу быць. Лічбу падпіскі падвойваю—падпісваюся на 40 руб.—гаворыць калгасьнік **Буйвідовіч Іван Рыгораў.**

Па прыкладу перадавых, разгортваючы індывідуальнае спаборніцтва, усе калгасьнікі падпісаліся на новую пазыку. Тут-жа падведзены вынікі. Падпіска складае 2 тыс. 800 руб. Заданьне выканана на 140 проц. Адстаючых брыгад па падпісцы на новую пазыку зараз няма.

Тут-жа на мітынгу было вырашана зьвярнуцца з адкрытым лістом да ўсіх калгасьнікаў, беднякоў і сераднякоў—аднаасобнікаў БССР з заклікам аб заканчэньні рэалізацыі пазыкі да 12-годзьдзя вызваленьня БССР ад белапалякаў. Насьценгазэтай была вынесена прапанова аб пасылцы буксірнай брыгады ў адстаючыя калгасы „Будаўнік культуры“ і „Пралетарскую перамогу, Грыцкаўскага сельсавету і ўзяцьці на грамадзкі буксір аднаасобнікаў-беднякоў і сераднякоў. Прапанова насьценгазэты была падхоплена. Складзена буксірная брыгада з лепшых ударнікаў на-чале з старшынёй камсоду тав. Мацкевічам.

Калгасьнікі абавязаліся датэрмінова ўнесьці першы ўзнос па пазыцы ў суме 700 рублёў і здаць 500 руб. сельскагаспадарчага падатку.

Гэта першыя вынікі работы насьценгазэты і камсоду калгасу „Гігант“ у барацьбе за рэалізацыю новай пазыкі. Мэтады і формы сваёй масавай работы спраз буксірную брыгаду яны пераносяць у адстаючыя вучасткі.

Вопыт масавай работы насьценгазэты і камсоду калгасу „Гігант“ лішні раз сьцьвярджае, што там, дзе праводзіцца шырокая палітычная масавая работа, заданьні па рэалізацыі пазыкі ня толькі выконваюцца, але і перавыконваюцца. **Вопыт гігантаўцаў павінен быць падхоплен усімі калгасамі, насьценгазэтамі і камсодамі.**

Насьценгазэта калгасу „Гігант“ — першы кандыдат на сацыялістычнае пяршынство ў конкурсе на лепшую газэту па рэалізацыі пазыкі чацьвертага завяршаючага году пяцігодкі.

**В. Фесько.**



# Будаўніцтва паляўнічай гаспадаркі ў 1932 г.

Мерапрыемствы Белкахотсаюзу ў галіне будаўніцтва паляўнічай гаспадаркі ў 1932 г. прадугледаюць перш за ўсё пэрспэктывы разьвіцьця гэтай гаспадаркі ў далейшым і разьлічаны, такім чынам, на стварэньне рэальных асноў для складаньня плянаў будаўніцтва яе ў другім пяцігодзьдзі. З другога боку, гэтыя мерапрыемствы выходзяць з таго фактычнага становішча, у якім паляўнічая гаспадарка знаходзілася аж да самага апошняга часу.

Канкрэтна гэта становішча можа быць характарызавана тым, перш за ўсё, што паводле пяцігадовага пляну паляўнічай гаспадаркі, зацьверджанага эканамічным саветам пры СНК БССР, фінансаваньне яе зацікаўленымі арганізацыямі не прадугледалася. А таму зусім зразумела, што апошняе абумовіла сабою зусім нязначную ступень асабліва капіталаўкладаньня, што ў сваю чаргу пазбаўляла магчымасьці належным чынам падвышаць вытворчасьць паляўнічых угодзьдзяў. Бо зусім нязначную і далёка недастатковую колькасьць грошай на гэту справу адпускаў толькі Белкахотсаюз.

Апрача гэтага вельмі адмоўна адбівалася і адбіваецца на вытворчасьці паляўнічых угодзьдзяў і той зусім ненармальны факт, што ўласна паляваньне накіроўвалася пераважна за здабычу паляўнічай прадукцыі, тады як неабходнасьць зьнішчэньня аднаго віду паляўнічых жывёл з мэтаю адначаснага культываваньня другога,—у большасьці выпадкаў не практыкавалася. Гэтым самым парушалася самая аснова бесьперапыннага карыстаньня паляўнічымі ўгодзьдзямі, а разам з гэтым ня ўлічвалася неабходнасьць захаваньня на ўвесь час відавой устаноўкі паляўнічай гаспадаркі наогул.

Такія адносіны да паляўнічай гаспадаркі, з аднаго боку, зацікаўленых арганізацый, а з другога—паляўнічых прывялі да таго, што некаторыя віды паляўнічай фауны (вавёрка, напрыклад, якой у некаторых раёнах засталіся адзінкі) сталі відавочна памяншацца. Ды і наогул ў апошні час паляваньне стала відавочна менш дабычлівым.

Апошняе і прымушае зараз зьвярнуць на разьвіцьцё і будаўніцтва паляўнічай гаспадаркі значна больш увагі, чым гэта было да гэтага часу. У адносінах да зацікаўленых арганізацый адзначанае становішча настойліва патрабуе зацікаўленасьці разьвіцьцём паляўнічай гаспадаркі, бо яно магчыма толькі на аснове ўзгодненасьці яе з сельскай і лясной гаспадаркай, без чаго немагчыма будаўніцтва апошняй на цьвёрдым грунце.

Што-ж да Белкахотсаюзу, дык пададзенае становішча прымушае яго неадкладна ўжыць перш за ўсё дасьледчае вывучэньне паляўнічай гаспадаркі з мэтаю высьвятленьня колькаснага становішча ўсіх відаў паляўнічай фауны і тых умоў, у якіх яна знаходзіцца (натуральных і арганізацыйна-гаспадарчых). Бо бяз гэтага, зразумела, ня можа быць і гутаркі пра нармальнае разьвіцьцё гаспадаркі. Адначасна з гэтым Белкахотсаюзу прышлося ўжыць рад мерапрыемстваў, накіраваных на падвышэньне вытворчасьці паляўнічых угодзьдзяў.

Адным з мерапрыемстваў у гэтым напрамку ў сучасны момант зьяўляецца арганізацыя паляўнічых заказьнікаў і часткова дзяржаўных запрэтнікаў. На гэта ў першую чаргу Белкахотсаюз і накіроўваў сваю ўвагу.

Да 1930 на тэрыторыі паляўнічых угодзьдзяў Беларусі было арганізавана 68 паляўнічых заказьнікаў з агульнай плошчай пад заказам у 251585 га. Пад дзяржаўным запрэтнікам Беларусі налічвалася 75.000 га. У 1930 г. да запрэтнікаў была далучана ахоўная зона ў 25000 га.

Такім чынам лясная плошча, на якой не вытвараецца паляваньне з мэтаю павялічэньня паляўнічай фауны і ўзьняцьця вытворчасьці паляўнічых угодзьдзяў, выражаецца ў наступных лічбах:

| | | |
|---|---|---|
| пад заказьнікамі знаходзіцца | . . . . . | 251.585 га |
| пад запрэтнікамі „ | . . . . . | 100.000 га |
| а разам „ | . . . . . | 351.585 га |

што складае 11 проц. лясной плошчы БССР.

Аднак, з тае прычыны, што попыт на пушніну і іншыя прадукты паляваньня з кожным годам павялічваецца адзначаная колькасьць, у даным выпадку, заказьнікаў робіцца відавочна недастатковай. Бо ўжо ў 1932 г. па пляну неабходна нарыхтаваць на тэрыторыі паляўнічых угодзьдзяў Беларусі наступную колькасьць аднэй толькі пушніны:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 1. Барсук | 500 шт. | на суму | 1.000 | руб. |
| 2. Вавёрка | 120.000 „ | „ | 48.000 | „ |
| 3. Воўк | 1.000 „ | „ | 15.000 | „ |
| 4. Крыса амбарн. | 25.000 „ | „ | 3.000 | „ |
| 5. Гарнастай | 6.000 „ | „ | 12.000 | „ |
| 6. Заяц русак і бялак | 100.000 „ | „ | 40.000 | „ |
| 7. Куніцы | 300 | „ | 7.500 | „ |
| 8. Крот | 1.800.000 „ | „ | 4.800.000 | „ |
| 9. Крыса вадзяная | 15.000 | „ | 1.200 | „ |
| 10. Лісіца | 5.000 | „ | 60.000 | „ |
| 11. Ласак | 6.000 „ | „ | 2.100 | „ |
| 12. Норак | 600 „ | „ | 4.800 | „ |
| 13. Рысь | 50 „ | „ | 1.400 | „ |
| 14. Тхор | 45.000 „ | „ | 26.000 | „ |
| 15. Соня, хамяк, суслік | | „ | 1.200 | „ |
| Разам: | . . . . | | 814.000 | руб. |

Каб выканаць гэты плян нарыхтовак, не закранаючы асноўнага фонду і захоўваючы непарыўнасьць карыстаньня, і каб у далейшым здабыча пушніны павялічвалася, г. зн. павялічвалася-б вытворчасьць паляўнічых угодзьдзяў. У 1932 г. неабходна правесьці наступныя мерапрыемствы:

## 1. Адчыненьне новых заказьнікаў

Выдзяляючы частку паляўнічых угодзьдзяў пад заказьнікі мы гэтым самым памяншаем эксплёатуемую плошчу і тым самым даем магчымасьць найбольш спакойна і бясьпечна разьвівацца паляўнічай фауне, пры добрай пастаноўцы барацьбы з драпежнікамі. Адчыненьне заказьнікаў спрыяе такім чынам павялічэньню паляўнічай фауны, што ў сваю чаргу павышае вытворчасьць паляўнічых угодзьдзяў, а нарэшце павялічвае і гаспадарчае значэньне паляўнічай гаспадаркі для краіны. Пажаданай мэтай, што забясьпечвала-б вытворчасьць паляўнічых угодзьдзяў, зьяўляецца арганізацыя ня менш аднаго заказьніка ў кожным раёне, там, дзе няма прыпісных гаспадарак.

У сучасны момант у 20 раёнах Беларусі няма паляўнічых заказьнікаў і толькі на 5 заказьнікаў прыслан матар'ял (гутарка ідзе пра заказьнікі ляснога тыпу). З тае прычыны, што ў першую чаргу ў раёнах, дзе няма заказьнікаў, няма магчымасьці вытварыць ахотпрыпіску, неабходна арганізаваць 25 новых заказьнікаў і пераглядзець старыя і неадпавядаючыя сваіму прызначэньню. Пры чым, з тае прычыны, што на тэрыторыі Беларусі ў некаторых раёнах ёсьць рэдка сустракаемы цяпер зьвер—бобр, і што такіх мясцовасьцяй па маючыхся зьвестках—12, для захаваньня бабра і стварэньня спрыяючых умоў для размнажэньня яго неабходна арганізаваць 12 бабровых заказьнікаў.

Вось на адчыненьне гэтых 37 заказьнікаў патрабуюцца наступныя выдаткі:

а) На абсьледваньне мясцовасьці, складаньне карт, вучотных ведамасьцей, ахоттаксацыю па 100 руб. на заказьнік, што складае суму (37 × 100) — 3.700 руб.

б) На аслупаваньне 37 заказьнікаў з прыбіўкай указальных дошчак, выходзячы з разьліку 30 слупоў на заказьнік з аплатай па 10 р. слуп (37 × 30 × 10) 11.100 р.

Усяго на аплату працы паказанай у пунктах „а" і „б" патрэбна 14.800.

Аднак было-б вялікай памылкай думаць, што работа Белкахотсаюзу ў галіне будаўніцтва паляўнічай гаспадаркі можа абмежавацца аднэй толькі арганізацыяй паляўнічых заказьнікаў, г. зн. вызначэньнем плошчы іх, аслупоўкай і г. д. Бо зусім зразумела, што для таго, каб заказьнікі выконвалі сваю функцыю павялічэньня паляўнічай фауны і ўзьняцца праз гэта ўдзельнай вагі паляўнічай гаспадаркі наогул, неабходна як трэба наладзіць работу ўнутры заказьнікаў. Неабходна належным чынам паставіць работу па ахове іх, неабходна падшукаць адпаведных вартаўнікоў, якія адказвалі-б за ахову заказьнікаў, вялі-б сталы вучот і нагляд за паляўнічай фаунай і яе дынамікай, давалі-б каму і куды належыць своечасовыя і поўныя зьвесткі і г. д.

Для правядзеньня гэтай работы неабходна 89 437 руб. (па меркаваньнях Белкахотсаюзу), пры чым у гэту суму павінны ўвайсьці і выдаткі на пастаноўку работы ў галіне аховы курапаткі ў заказьніках у зімовы час (утрыманьне падкормшчыкаў, адлоўшчыкаў, набыцьцё неабходных кармоў, будаўніцтва тачкоў і г. д.), а таксама і ў галіне зьнішчэньня ваўкоў, шляхам устаноўкі капканаў з разьліку—1 на 4 га плошчы.

Апрача такіх мерапрыемстваў, накіраваных на забясьпечаньне магчымасьці выкананьня вызначаных на 1932 г. плянаў загатовак паляўнічай прадукцыі і захаваньня належнага разьвіцьця паляўнічай гаспадаркі наогул, якімі зьяўляюцца арганізацыя паляўнічых заказьнікаў і работы на ахове іх,— Белкахотсаюз намеціў для правядзеньня ў 1932 ямчэ і наступныя захады.

## 1. Арганізацыю прыпісных гаспадарак

Існуючая ў сучасны момант сыстэма вольных паляўнічых угодзьдзяў не дае магчымасьці перайсьці да плянава-рацыянальнага мэтаду вядзеньня паляўнічай гаспадаркі.

Сыстэма вольных угодзьдзяў ужывалася раней, ужываецца і ў сучасны момант у БССР, з той толькі розьніцай, што ў сучасны момант ёсьць заказьнікі, якія забясьпечваюць часткова павялічэньне паляўнічай фауны. Пры такой сыстэме вядзеньня паляўнічай гаспадаркі (вольных угодзьдзяў), паляўнічыя дабываюць з паляўнічых угодзьдзяў усё тое, што не забаронена (а пад час і тое, што забаронена). не абмяжоўваючыся, г. зн. не разважаючы ці магчыма дабыць такую колькасьць дзічы і зьвера, ці не, не парушаючы ўмоў, забясьпечваючых павялічэньне паляўнічай фауны ў далейшым.

А таму, такая сыстэма ўносіць ў паляўнічую гаспадарку дэзарганізацыю. Такая сыстэма павінна быць заменена другой, якая была-б больш прадукцыйнай па выхаду таварнасьці і не памяншала-б асноўнага фонду. Найбольш падыходзячай для гэтай мэты, у сучасны момант лічыцца сыстэма паляўнічых калектываў з прыпіскай да апошніх паляўнічых угодзьдзяў, бо рэканструкцыя паляўнічага промыслу ў паляўнічай гаспадарцы магчыма толькі пры яе калектывізацыі, г. зн. на аснове перадачы вучасткаў паляўнічых угодзьдзяў паляўнічым каапэрацыйным арганізацыям, райтаварыствам, паляўнічым сельячэйкам і г. д.

Толькі пры ўмовах калектыўнага скарыстоўваньня паляўнічых угодзьдзяў магчыма атрымаць з адзінкі плошчы іх найбольшую колькасьць прадукцыі паляваньня, з захаваньнем умоў, што забясьпечвалі-б магчымасьць непарыўнасьці карыстаньня ўгодзьдзямі ў далейшым з меншай затратай працы і сродкаў.

Для правядзеньня арганізацыі прыпісных паляўнічых гаспадарак у 1932 г. утворан пры Белкахотсаюзе спэцыяльны паляўніча-ўпарадкоўчы штат, які складае 1-ю ўпарадкоўчую партыю у ліку 3 паляўнічых-тэхнікаў і аднаго загадчыка. Адначасна з гэтым на правядзеньне адпаведнай работы ў гэтым напрамку і набыцьця неабходных для гэтага розных спэцыяльна-тэхнічных прылад (вымяральных, чарцёжных, бінокляў і інш.) патрэбны і адпаведныя сродкі ў суме 13.458 руб.

Аднак пры наяўнасьці адзначаных штату і сродкаў на працягу паляўніча-ўпарадкоўчага сэзону ў 1932 г. мяркуецца арганізацыя максімум 15 прыпісных гаспадарак „Рэчыцкага Палесься", што зьяўляецца відавочна невдавальняючым і не адказвае забясьпечаньню патрэбнасьцяй у іх.

## 2. Барацьба з драпежнікамі

Выходзячы з таго, што драпежнікі ня толькі прыносяць кожны год значныя страты сельскай гаспадарцы (зьнішчэньне с.-г. жывёлы), але значна шкодзяць і разьвіцьцю паляўнічай гаспадаркі, шляхам зьнішчэньня некаторых каштоўных відаў паляўнічай фауны,—барацьбу з імі Белкахотсаюз таксама

уключыў у рад мерапрыемстваў па забясьпечаньні належнага разьвіцьця гэтай гаспадаркі. Для правядзеньня барацьбы з драпежнікамі ў 1932 г. патрэбна 63000 руб. у якасьці прэміравальнага фонду для лепшых барацьбітоў з імі.

Пры чым, у адпаведнасьці з гэтым вызначана і колькасьць драпежнікаў усіх відаў, якая павінна быць зьнішчана за вызначаную суму. Так, на працягу году мяркуецца зьнішчыць: старых ваўкоў 500 шт., ваўчыц—400, ваўчанят—1000 шт., з адпаведнай аплатай: за 1 старога ваўка—20 руб., ваўчыцу—20 руб., ваўчаня—10 руб. Каршуноў-куратнікаў 1000 шт., птушатнікаў—1000, з аплатай за 1 куратніка 3 руб., птушатніка—1 р.; бадзячых сабак—30 тыс., катоў 30 тыс. з адпаведнай аплатай за кожную адзінку.

Апроч гэтага, вызначана правядзеньне 100 аблаў на ваўкоў з прэміраваньнем ў 20 руб. за кожную абламу выключна абкладчыкаў у тым выпадку, калі аклад ўдалы, а таксама, калі вынікі аблавы хаця і ня ўдалыя, але не па віне абкладчыка, г. зн. калі ваўкі былі ў абыйдзеным коле, але не забіты не па віне абкладчыка.

Такім чынам, матар'яльная аснова зацікаўленасьці паляўнічых зьнішчэньнем драпежнікаў забясьпечваецца і справа застаецца толькі за здольнасьцю і ахвотай райтаварыстваў і вясковых ячэек за належнай арганізацыяй яе на месцох і правядзеньнем у жыцьцё.

### 3. Сабакагадоўля

Паляўнічы сабака адыгрывае важную ролю ў дабычы паляўнічым пушніны і дзічы. Апошні зьяўляецца верным памочнікам у паляваньні на зьвера і дзіч, а дзякуючы гэтаму сабакагадоўля павінна стаць на належнай вышыні, галоўным чынам кроўная сабакагадоўля.

Кроўная сабакагадоўля ў Беларусі ня мае таго размаху, які патрэбен для таго, каб забясьпечыць паляўнічага добрым сабакам, дзякуючы чаму можна павысіць здабычу пушніны і зьвера.

Найлепшым шляхам разьвіцьця ў нашых умовах кроўнай сабакагадоўлі, поруч з арганізацыяй гадавальнікаў зьяўляецца калектыўны мэтад, аснаваны на кантрактацыі.

Для ажыцьцяўленьня гэтага мэтаду Белкахотсаюз арганізуе ў 1932 г. пры кожным райтаварыстве сэкцыі кроўнай сабакагадоўлі, якія павінны дабыць кроўны матар'ял (дарослы або маладняк) шляхам кантрактацыі і потым раздаваць ячэйкам паляўнічых на дагаворных пачатках. Здабытыя кроўныя сабакі, у сваю чаргу, павінны разьмяшчацца сярод маючых патрэбу ў іх сельячэек паляўнічых, пры чым беднаце, калгасьнікам павінна быць аказана садзейнічаньне ў набыцьці шчанюкоў, шляхам прадастаўленьня крэдыту.

Для адбору лепшых вытворцаў і заахвочваньня мас у справе сабакагадоўлі неабходна наладзіць па раёнах раённыя выстаўкі за сродкі райтаварыстваў, на якіх адабраць лепшы матар'ял для ўсебеларускай выстаўкі. Пасьля правядзеньня раённых выставак арганізаваць усебеларускую выстаўку, на якой, у сваю чаргу, падбіраецца лепшы матар'ял, што ў далейшым і распаўсюджваецца.

На арганізацыю ўсебеларускай выстаўкі сабак у зьвязку з такой задачай неабходна 2 тыс. руб.

Усяго для правядзеньня вышэйпералічаных мерапрыемстваў неабходна затраціць 175.745 руб.

### 4. Культмасавая работа

З пункту гледжаньня барацьбы за пасьпяховае правядзеньне ў жыцьцё адзначаных вышэй мерапрыемстваў асабліва вялікае значэньне набывае бясспрэчна культмасава-палітвыхаваўчая работа сярод паляўнічых мас. У гэтым сэнсе яна зьяўляецца, уласна кажучы, і сама ня менш важнай за пададзеных мерапрыемстваў галінай работы ў справе правядзеньня ў жыцьцё адзначаных вышэй плянаў будаўніцтва паляўнічай гаспадаркі.

Выходзячы з гэтага канкрэтна Белкахотсаюз намеціў правядзеньне ў 1932 г. культмасавай работы наступным чынам:

а) Дзя азнаямленьня шырокіх колаў паляўнічых з паляўнічай фаунай Беларусі і паляўнічазнаўствам, выпусьціць папулярныя падручнікі па „Біалёгіі лясных зьвяроў і птушак і паляўнічайзнаўству“ на беларускай мове ў колькасьці 15.000 экз., на што патрэбна 5000 руб.

б) Склікаць 10-дзённыя курсы раённых працаўнікоў, працуючых у галіне паляўнічай гаспадаркі, для азнаямленьня з мэтадамі і сыстэмай вядзеньня паляўнічай гаспадаркі. Курсамі павінны быць ахоплены ў першую чаргу тыя раёны, у якіх намячаюцца ў бліжэйшы час правядзеньне паляўнічага ўпарадкаваньня. Выдаткі для гэтай мэты вызначыць у памеры 2.500 руб.

в) У мэтах азнаямленьня з пастаноўкай работы на арганізацыі прыпісных гаспадарак у іншых рэспубліках Саюзу камандыраваць заг. сэктарам паляўнічай гаспадаркі і Белкахотсаюзу ў культурнавопытную гаспадарку Ўсекахотсаюзу; у Варонескі бабровы запрэтнік і інстытут паляўнічазнаўства.

г) Набыць неабходнай літаратуры на 250 руб.

Такім чынам мы пералічылі сьцісла асноўныя мерапрыемствы па будаўніцтву паляўнічай гаспадаркі ў 1932 г. Для правядзеньня іх у жыцьцё неабходна перш за ўсё поўнае выкарыстаньне намечаных на гэту справу грашовых сродкаў. А таму адшуканьне іх — першачарговая задача, бо Белкахотсаюз можа выдаць толькі 20.000 руб. і такім чынам астатнюю суму павінны ўнесьці адпаведныя зацікаўленыя ў разьвіцьці паляўнічай гаспадаркі ўстановы і арганізацыі.

Аднак, апрача грашовых сродкаў перад Белкахотсаюзам стаіць неадкладная задача арганізацыйна наладзіць справу ажыцьцяўленьня ўсіх вызначаных мерапрыемстваў, у першую чаргу. Разам з гэтым і нізавыя паляўнічыя арганізацыі павінны актыўна садзейнічаць правядзеньню іх на месцох. Бо ад ўдзелу ў гэтай справе паляўнічай грамадзкасьці будзе залежаць посьпех будаўніцтва рэнтабельнай паляўнічай гаспадаркі ва ўсіх яе плянах.

**А. Сідарэнка.**

# Рашэньні ўсесаюзнага зьезду— вехі ў рабоце паляўнічай каапэрацыі

### Кожны пункт рэзалюцыі давесьці да кожнага паляўнічага

Рэзалюцыя па дакладу аб задачах прамыслова-паляўнічай і інтэгральнай каапэрацыі ў пяцігодцы 1933—37 г.

### Дасягненьні ахотсыстэмы за 3 гады пяцігодкі

1. Прамыслова-паляўнічая і інтэгральная каапэрацыя пад кіраўніцтвам партыі і ўраду, на аснове дасягненьняў у галіне індустрыялізацыі краіны, калектывізацыі сельскай гаспадаркі, ліквідацыі кулацтва, як клясы, на базе суцэльнай калектывізацыі, на аснове правядзеньня генэральнай лініі партыі, дабілася за тры гады першай пяцігодкі наступных посьпехаў.

а) Колькасьць членаў узрасла з 770 тысяч да 1.250 тыс., ці на 62 проц., а ў 1932 г. мяркуецца павялічаньне да 1.465 тыс., што ў адносінах да пяцігадовага пляну складзе 98 проц. Каапэраваньне насельніцтва ў 1931 г. дасягнула 83 проц., у тым ліку па інтэгральнай каапэрацыі 70 проц.

б) Паявы капітал сыстэмы ўзрос з 5,6 млн. руб. да 20 млн. руб., а ў 1932 г. намечана давесьці яго да 32,2 млн. руб., што да пяцігадовага пляну складзе 96 проц.

в) Пачаўшы вытворчую работу па трусагадоўлі з 1930 г., ахоткаапэрацыя дабілася к 4-му, завяршаючаму году забясьпечаньня пагалоўя трусінага стада ў 300 тыс. галоў. У 1932 г. мяркуецца павялічыць статак трусоў да 1.200 тыс. шт., што ў параўнаньні з пяцігадовым плянам дае перавышэньне на 50 проц.

г) Загатоўка пушмехсыравіны за тры гады павялічылася на 6,2 млн. р., а ўдзельная вага сыстэмы на пушным рынку ўзрасла з 17,6 да 32 проц.

д) Загатоўка рыбы ў раёнах Крайняй Поўначы за тры гады пяцігодкі склала 1.870 тыс. цэнт., што ў адносінах да пяцігадовага пляну за тры гады будзе складаць 100 проц.

е) Тавараварот сыстэмы па снабжэньні ахотбоеприпадамі за тры гады першай пяцігодкі ўзрос з 10 млн. руб. да 12 млн. руб. ці на 40 проц., а таваразабросkі на Крайнюю Поўнач спажывецкіх і прамтавараў павялічыліся з 6,7 млн. руб. да 23 млн. руб., ці больш чым у 3 разы.

ж) Да канца 1931 году ў раёнах Крайняй Поўначы калектывізацыяй ахоплена 14.844 гаспадарак, ці 27,8 проц. усёй гаспадаркі.

### Недахопы ў рабоце ахоткаапэрацыі

2. Аналіз дзейнасьці сыстэмы за 3 гады пяцігодкі дазваляе побач з паказанымі дасягненьнямі ўстанавіць наступныя яе слабыя бакі і важнейшыя недахопы за гэты пэрыяд.

а) Ахоткаапэрацыя ня справілася з задачай першапачатковага ахотупарадкаваньня і замацаваньня ахотугодзьдзяў за ахоткаапэрацыйнымі арганізацыямі. Паставіўшы мэтай правесьці першапачатковае ўпарадкаваньне і замацаваньне за сабой да канца пяцігодкі звыш **1 мільярда га** ахотугодзьдзяў, ахоткаапэрацыя да канца 1931 г. зрабіла ахотупарадкаваньне толькі на тэрыторыі 241 млн. га.

б) З прычыны недастатковага кіраўніцтва інтэгральнай каапэрацыі калгасамі, у большасьці раёнаў кепская справа з арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньнем калгасаў.

в) Рост каапэрацыйнай сыстэмы на Крайняй Поўначы не адпавядае тэмпам росту тавараабароту, што зьяўляецца аднэй з важных прычын, затрымліваючых разьвіцьцё тавараабароту на Крайняй Поўначы (сельскі каапэратыў у магістральных раёнах абслугоўвае 400-500 чал., а ў радзе інтэгральных раёнаў прыпадае на каапэратыў ад 1.000 да 2.000 чал.).

г) Ня выканана заданьне па арганізацыі аленегадоўлі. Па пяцігадовым пляне статак аленяў у каапэрацыйна-калгасным сэктары за 3 гады павінен быў узрасьці да 200 тыс. галоў, а фактычна ёсьць толькі 50 тыс. галоў.

д) Ахотінтэгральная каапэрацыя слаба змагалася за ўмацаваньне сваёй фінансавай базы, за гасразьлік, за рэнтабельнасьць усіх гаспадарчых апарацый, з прычыны чаго сыстэма мае страты; адзначаецца асабліва слабая работа за строгае забясьпечаньне плянавасьці, за рэалізацыю шасьці ўказаньняў т. Сталіна, якія зьяўляюцца важнейшымі ўмовамі пасьпяховай барацьбы за прамфінплян.

е) Пры наяўнасьці нясумненных дасягненьняў у правядзеньні загатовак пушмехсыравіны, усё-ж загатоўчыя пляны Ўсекахотсаюза за тры гады першай пяцігодкі сыстэмай выкананы толькі на 80 проц., а ў адносінах да пляну НКСнабу і Наркамзамежнага гандлю загатоўка пушмехсыравіны за гэты пэрыяд складае 93,5 проц.

ж) Паколькі паляўнічы промысел складае аснову вытворча-прамысловай дзейнасьці ахоткаапэрацыі, дык атрымаўшыйся да 4-га завяршаючага году пяцігодкі значны прарыў у выкананьні пляну ахотбудаўніцтва, пацягнуўшы за сабой недавыкананьне пляну дабычы і загатоўкі пушніны і мабілізацыі сродак, стварае рэальную пагрозу ў выкананьні пяцігадовага пляну ахоткаапэрацыі па асноўных галінах яе работы.

### Ахоткаапэрацыя — арганізатар паляўнічай гаспадаркі

3. У адпаведнасьці з дырэктывамі XVII партканфэрэнцыі па складаньні пляну 2-й пяцігодкі і ў адпаведнасьці з вынікамі вытворча-прамысловай дзейнасьці сыстэмы к 4-му, завяршаючаму году пяці-

годкі,—перад прамыслова-паляўнічай і інтэгральнай каапэрацыяй стаяць наступныя асноўныя задачы, якія павінны вызначыць яе канкрэтныя заданьні на 2-ю пяцігодку.

а) Роля ахоткаапэрацыі ў народнай гаспадарцы вызначаецца значэньнем яе як арганізатара паляўнічай гаспадаркі, што зьяўляецца аднэй з важнейшых крыніц экспартных сыравінных і харчовых рэсурсаў краіны. Таму галоўнейшай задачай ахоткаапэрацыі ў другім пяцігодзьдзі зьяўляецца ажыцьцяўленьне рэканструкцыі ахотпромыслу і пабудова на ўсёй тэрыторыі паляўнічых угодзьдзяў на аснове самадзейнасьці каапэраванага насельніцтва, прыпіскі ахотугодзьдзяў да сыстэмы, правядзеньня мерапрыемстваў па ахове зьвера і птахі, арганізаванай паляўнічай гаспадаркі, выключаючай магчымасьць драпежніцкага зьнішчэньня запасаў пушнога зьвера і птахі і забясьпечваючага павышэньне прадукцыйнасьці ахотугодзьдзяў. Арганізацыя паляўнічай гаспадаркі на сацыялістычных пачатках таксама забясьпечыць канчатковую ліквідацыю эксплёатацыі батрацка-бядняцкага ахотнасельніцтва кулацкімі элемэнтамі.

б) Шырокае разьвіцьцё мяса-скурнай трусагадоўлі. з мэтаю ўзмацненьня экспартных, сыравінных і харчовых рэсурсаў нашай краіны.

в) Снабжэньне ахотнасельніцтва ахотпрамысловымі прыладамі, знаражэньнем і правядзеньнем мерапрыемстваў па пераўзбраеньні прамысловага ахотнасельніцтва шляхам адшуканьня і ўжываньня ўдасканаленых спосабаў і сродкаў як у індывідуальным, так і асабліва, у калектыўным—брыгадным паляваньні.

г) Забясьпечаньне няўхільнага павышэньня загатовак пушніны, мехавой сыравіны, дзічы, мяса дзікіх жывёлін і максымальнага разгортваньня загатовак другарадных прадуктаў (лектэрсыравіна, грыбы, арэхі, ягады і інш.), дабіваючыся ў гэтых мэтах пашырэньня аб'ектаў загатовак.

д) Вызваленьне з абаротаў сыстэмы дзяржкрэдыту шляхам забясьпечаньня ўнутрыкаапэрацыйнага накапленьня на аснове гасразьліку і мабілізацыі сродкаў насельніцтва.

е) Калі на працягу першай пяцігодкі на Крайняй Поўначы ў асноўным была вырашана задача вызваленьня бядняцка-серадняцкіх мас ад гандлёва-пасрэдніцкай эксплёатацыі з боку паўфэадальных і кулацкіх гаспадарак, шляхам калектывізацыі вытворчага каапэраваньня, дык у другім пяцігодзьдзі перад усімі партыйна-савецкімі і гаспадарчымі арганізацыямі Крайняй Поўначы і ў прыватнасьці перад каапэрацыйна-калгаснай сыстэмай, у адпаведнасьці з дырэктывамі XVII партканфэрэнцыі аб ліквідацыі клясаў да канца пяцігодкі, стаіць задача поўнага вызваленьня працоўных мас Крайняй Поўначы ад вытворчай і гандлёвай эксплёатацыі паўфэадальных і кулацкіх гаспадарак на аснове калектывізацыі і далейшага разгортваньня каапэрацыйнага і дзяржаўнага гандлю.

ж) На аснове апошніх дасягненьняў навукі і тэхнікі дабівацца поўнага выкарыстаньня натуральных багацьцяў Крайняй Поўначы і павышэньня таварнасьці паўночнай гаспадаркі, асабліва ў частцы, ідучай на экспарт.

з) Правядзеньне рэканструкцыі аленегадоўчай гаспадаркі шляхам арганізацыі буйных калгасных стад з павышанай таварнасьцю.

і) Разьвіцьцё саматужных промыслаў з мэтаю поўнага задавальненьня патрэб паўночнай гаспадаркі прадукцыяй саматужных промыслаў і павышэньне вылову экспартнай прадукцыі.

к) Павялічэньне таварнага выхаду рыбы на аснове апрамышленьня новых неасвоеных вадаёмаў з шырокай мэханізацыяй і матарызацыяй лову і ператварэньня на асноўных вадаёмах зараз распыленага лову ў канцэнтраваны лоў.

л) У галіне сельскай гаспадаркі разьвіцьцё гародніцтва і жывёлагадоўлі ў разьмерах, задавальняючых унутраныя патрэбнасьці Крайняй Поўначы. У гародніне, малочных прадуктах і мясе—разьвіцьцё тэхнічных культур для здавальненьня патрэб у сыравіне саматужнай прамысловасьці і разгортваньне паляводзтва з мэтаю забясьпечаньня патрэбнасьці жывёлагадоўлі ў канцэнтраваных кармох.

м) Падрыхтоўка новых кадраў кіруючых работнікаў і спэцыялістаў як вышэйшай, так і сярэдняй кваліфікацыі ў разьмерах, забясьпечваючых у сувязі з пашырэньнем дзейнасьці ўзрастаючыя патрэбнасьці сыстэмы.

## Задачы, стаячыя перад ахоткаапэрацыяй

4. У адпаведнасьці з гэтымі асноўнымі ўстаноўкамі, ахотінтэгральная каапэрацыя ставіць перад сабой наступныя канкрэтныя задачы на другое пяцігодзьдзе:

### Па прамыслова-паляўнічай каапэрацыі

а) Правесьці першапачатковае ахотупарадкаваньне ва ўсіх ахотугодзьдзях, г. зн. на тэрыторыі 1.700 млн. га і спэцыяльнае ахотупарадкаваньне на тэрыторыі 1.350 млн. га.

б) У выніку правядзеньня мерапрыемстваў па падвышэньні якасьці прадукцыі, па ўключэньні ў эксплёатацыю не прамысловых і слаба прамышляемых плошчаў, па ўключэньні ў промыслы новых відаў забясьпечыць павышэньне прадукцыйнасьці ахотугодзьдзяў па пушному зьверу ня менш, чым на 50 проц. У выніку правядзеньня ахотустройства, зьнішчэньня пярнатых драпежнікаў, пасадкі і падкормкі і другіх спэцыяльных мерапрыемстваў забясьпечыць павялічэньне здабычы боравой дзічы з 7,4 да 12 млн. шт. і балотнай—з 13 да 22 млн. штук.

в) Праводзячы работу па разьвіцьці трусагадоўлі па лініі арганізацыі каапэрацыйных гаспадарак, трусагадоўчых фэрм пры сельскагаспадарчых калгасах, а таксама па лініі арганізацыі гарадзкіх і прыгарадных гаспадарак (сярод рабочых і служачых), ахоткаапэрацыя ставіць сваёй задачай павялічэньне трусінага акоту да канца 1937 г. в 1.200 да 3.250 тыс. шт. і таварнага выхаду трусінай прадукцыі з 19.850 тыс. руб. да 147 млн. руб.

г) Разьвіцьцё пантовай аленегадоўлі мяркуецца выключна па лініі калгаснага сэктара (аленегадоўчыя фэрмы пры калгасах). Уласныя і каапэрацыйныя гаспадаркі (калгасы тыпу саўгасаў) намячаюцца да ліквідацыі. Дзейнасьць ахоткаапэрацыі па разгортваньні пантовай аленегадоўлі павінна ў асноўным заключацца ва ўзмацненьні пантаводчай калек-

тыўнай гаспадаркі, поўнага іх ахопу і забясьпечаньня падвышэньня таварнага выхаду прадукцыі. Пры такім кірунку работы ахоткаапэрацыя ставіць мэтаю павялічэньне пагалоўя пантовых аленяў да канца другой пяцігодкі з 3 да 8 тыс.

д) Намячаючы правядзеньне вытворчай дзейнасьці па зьверагадоўлі выключна па лініі арганізацыі зьверапітомнікаў пры калгасах (разьвядзеньне івадушкі і чарнабурых лісіц) ахоткаапэрацыя мяркуе ў другім пяцігодзьдзі арганізаваць 200 калгасаўзьверапітомнікаў і давесьці пагалоўе племяннога статку з 300 да 8 тысяч.

е) Улічваючы намячаемае павялічэньне выхаду пушнога зьвера, а таксама маючы на ўвазе, што ахоткаапэрацыя будзе карыстацца пераважным правам загатовак пушніны на пушных ахотугодьдзях, ахоткаапэрацыя ставіць сваёй задачай павялічэньне ўдзельнай вагі на пушназагатоўчым рынку з 34 да 90 проц. па скурсыравіне давесьці ўдзельную вагу з 15 да 18 проц.

ж) Забясьпечыць павялічэньне загатоўкі дзічы да канца другой пяцігодкі з 8,2 да 18 млн. руб. і павысіць удзельную вагу з 65 да 95 проц.

з) Загатоўку мяса дзікіх жывёлін павялічыць да 12 тыс. тон на суму 8 млн. руб. Арыентуючыся на збор трусіных тушак ад забою ў разьмеры 75 проц. пры захаваньні ўдзельнай вагі ў разьвіцьці трусагадоўлі ў 12 проц., давесьці загатоўку трусінага мяса да канца другой пяцігодкі да 63 тыс. тон (на 63 млн. руб.).

і) Загатоўку лектэхсыравіны павялічыць з 3.9 да 10 млн. руб., а ўдзельную вагу павысіць з 19.8 проц. да 50 проц. і прадуктаў падсобных лясных промыслаў—да 15 млн. руб. А ў цэлым зварот на загатоўча-збытавой дзейнасьці сыстэмы павінен павялічыцца з 55,9 да 316 млн. руб., г. зн. у 6 разоў.

к) Снабжэньне асноўнымі ахотпрамысловымі таварамі ў адпаведнасьці з праектуемым ростам удзельнай вагі ахоткаапэрацыі на пушным рынку, а таксама ў сувязі з намячаемым ростам прадукцыі дзічнай прамысловасьці ў паўтары-два разы павялічыць з 8 млн. руб. у 1932 г. да 100 млн. руб. у 1937 г.

л) Закончыць каапэраваньне паляўнічага насельніцтва і давесьці колькасьць членаў з 1,600 тыс. чал. у 1932 г. да 1.850 тыс. чал. у 1937 г.

## Арганізацыйнае будаўніцтва

5. Арганізацыйнае будаўніцтва ахоткаапэрацыі павінна знаходзіцца ў дакладнай адпаведнасьці са зьместам яе вытворча-прамысловай і гаспадарчай дзейнасьцю. Выходзячы з гэтага намячаюцца наступныя арганізацыйныя формы ахоткаапэрацыі:

**Саюзныя зьвеньні.** 1. Саюзахотцэнтр, які аб'ядноўвае абласныя, краявыя і рэспубліканскія саюзы.

2. Абласныя, краявыя і рэспубліканскія саюзы, што знаходзяцца на іх тэрыторыі.

3. Рэспубліканскія і абласныя саюзы, разьмешчаныя на тэрыторыі асобных абласьцей і краёў, саюзных і аўтаномных рэспублік аб'ядноўваюць нізавыя каапэратывы і членствуюць у абласных, краявых і рэспубліканскіх саюзах.

**Нізавыя зьвеньні сыстэмы ў прамысловых раёнах.** 1. Раённыя і міжраённыя саюзы, якія аб'ядноўваюць на прадмет арганізацыйнага і вытворча-прамысловага абслугоўваньня паляўнічай арцелі.

2. Паляўнічыя арцелі (статутныя), арганізуемыя на базе прыпісных ахотугодзьдзяў і абслугоўваючыя фізычных членаў.

3. Сельупаўнаважаныя, абслугоўваючыя фізычных членаў на правох падсправаздачнай асобы ахотарцелі.

**Нізавыя зьвеньні ў непрамысловых раёнах**

1. Паляўнічыя таварыствы (раённыя і міжраённыя), аб'ядноўваючыя фізычных членаў.

2. Сельупаўнаважаныя з тымі-ж функцыямі і правамі, як і ў прамысловых раёнах.

3. Акрамя таго ў мэтах унядрэньня калектыўных форм паляваньня і правільнага выкарыстаньня ахотугодзьдзяў як у прамысловых, так і непрамысловых раёнах, т-вы і саюзы арганізуюць паляўнічыя брыгады, якія будуць зьяўляцца не асобным зьвяном, а формай вытворча-прамысловай дзейнасьці.

4. Паколькі ахоткаапэрацыя каапэруе калгасьнікаў у індывідуальным парадку, дык абслугоўваньне іх павінна ажыцьцяўляцца праз нізавыя каапэратывы. А ўзаемаадносіны з калгасамі адносна выкарыстаньня калгасьнікаў для вытворча-прамысловай дзейнасьці ахоткаапэрацыі павінны быць устаноўлены на аснове пастановы Саўнаркому СССР аб адыходніцтве, па аналёгіі з дзяржаўнымі арганізацыямі, г. зн. ахоткаапэрацыя кантрактуе на дагаворных пачатках калгасьнікаў для выкарыстаньня іх, як рабочай сілы, агаварваючы ў дагаварох з калгаснай сыстэмай аказаньне дапамогі з боку калгасаў арганізацыі паляўнічай гаспадаркі.



# ЛЕТНЯЕ ПАЛЯВАНЬНЕ ПАЧАЛОСЯ

24 ліпеня г. г. адчыняецца сэзон летняга паляваньня на **водаплаваючую і балотную дзіч а з 1-га жніўня—на баравую** (цецярука, белую курапатку).

У сьвязку з гэтым перад паляўнічымі арганізацыямі і грамадзкасьцю паўстаюць задачы правядзеньня паляваньня з найбольшай эфэктыўнасьцю ў сэнсе здабычы паказаных відаў продукцыі (дзічы) і з найменшай шкодай у сэнсе падрыву асноў разьвіцьця і будаўніцтва паляўнічай гаспадаркі наогул. Інакш кажучы, паляўнічыя арганізацыі (райтаварыствы і асабліва сельячэйкі), а таксама і кожны паляўнічы ў паасобку, з аднаго боку, павінны зрабіць усё неабходнае для здабычы дазволенай к адстрэлу дзічыны ў мэтах выкананьня плянаў загатовак мяса і пяра, а з другога—павінны папярэдзіць магчымае злоўжываньне і зьнішчэньне (пад відам паляваньня на дзічыну) іншых аб'ектаў паляваньня. Пры гэтым на першым пляне павінна быць сыстэматычная актыўная барацьба перш за ўсё з браканьерамі.

Вопыт веснавога паляваньня і загатоўкі пяра і мяса і дзічыны паказаў, што яно праводзілася ў гэтым сэнсе нездавальняюча. Бо абавязак, які ўскладаўся на кожнага паляўнічага і прадугледаў здачу кожным з іх ня менш 1 кілегр. мяса забітае птушкі—гэты абавязак выканалі адзінкі. Апошняе тлумачылася тым, што вакол гэтай справы ня была дастаткова разгорнута масавая растлумачальная работа ды і паляваньне наогул было не арганізавана як належыць быць. Таму зараз, у час правядзеньня паляваньня ў бягучы летні сэзон, трэба ўнікнуць адзначаных памылак і недахопаў і паставіць справу так, каб паляваньне дало неабходныя станоўчыя вынікі. Прычым, адначасна з адпаведнай растлумачальнай работай сярод паляўнічых райтаварыствам трэба забясьпечыць кожнага з іх неабходным знаражэньнем (порахам, шротам і інш.), разьмяркоўваючы апошнія так, каб яны, задавальняючы патрэбы паляўнічых, у той-жа час зьяўляліся-б і сродкам, стымулюючым загатоўкі мяса, пяра. А з гэтага пункту гледжаньня—**кантрактацыя** зьяўляецца неабходным сродкам і мэтадам работы сярод паляўнічых ў справе выкананьня вызначаемых плянаў загатовак. Пра гэта павінны цьвёрда памятаць і т-вы і ячэйкі паляўнічых на мясцох.

**А. С—ка.**

# Вынікі веснавога паляваньня на Рагачоўшчыне

Веснавое паляваньне на качароў, калі меркаваць па колькасьці іх здадзенай паляўнічымі Рагачоўскага раёну, дало вельмі дрэнныя вынікі. Усяго здадзена каапэрацыі... **13 качароў. Гэта на 715 сяброў саюзу.** Лічба, як бачыце, зусім невялічкая і чым яна тлумачыцца сказаць зусім нельга. Можна меркаваць, што полая вада стаяла доўга і качары, быўшы пры качках, ня ішлі на вабік; можна думаць, што наогул іх было мала, але з прылёту наглядалася іх шмат; можна ўрэшце, думаць і так, што вроста паляўнічыя не здавалі забітай імі дзічыны. Але, паўтараю, дакладна сказаць цяжка.

Можна ўпэўнена сказаць толькі пра гарадзкіх паляўнічых, якія ня здалі ніводнага качара, тое, што яны, калі і забіў хто-небудзь некалькі штук, скарысталі іх самі.

Такім чынам, калі нарыхтоўка дзічыны будзе ісьці гэтакім шляхам і далей, з пачатку наступнага сэзону, дык трэба чакаць поўнага яе правалу. А каб гэтага ўнікнуць, трэба, па думцы маёй, перад пачаткам сэзону ўжыць такое мерапрыемства. Яго я раю ня толькі Рагачоўскаму, але і ўсім астатнім раёнам, якія ня выканалі папярэдніх плянаў мясанарыхтовак і спадзяюцца на гэтакі-жа посьпех у будучым, а менавіта: перад пачаткам паляваньня выдаць кожнаму паляўнічаму толькі па 200 гр. шроту каб даць магчымасьць набыць некалькі качак (з 200 гр. будзе 6-8 набояў). Потым за кожнае кілё дзічыны прэміяваць па 400 гр. (першы раз), па 200 гр. у другі раз і... будзьце ўпэўнены, што калі з 715 асоб прынясуць па кілё толькі 600 асоб, дык нарыхтоўка забясьпечана. Даваць-жа кожны раз вялікую прэмію за кілё дзічыны ня можна, нямэтазгодна таму, што тады ў адны рукі трапіць можа шмат шроту, можа быць гандаль ім і наогул злоўжываньне.

У гэтай галіне, як бачыце, справа стаіць дрэнна. Як-жа яна ў нас на Рагачоўшчыне пастаўлена наогул? А можна сказаць, што таксама дрэнна. У нашай паляўнічай краме гандляваць амаль што нечым, а набыць тавару некаму, і грошы, здаецца, ёсьць каля 10.000. І загадчык ёсьць; ды яму ехаць за таварамі няма часу, бо ён вельмі заняты па калгасных справах і вельмі рэдка наведвае праўленьне—толькі тады, **калі трэба атрымаць пэнсію 175 руб... у месяц.** Праўда, ён і не паляўнічы і па гэтаму справы паляўнічыя яго ня вельмі цікавяць, а тым часам справы шмат: і кротанарыхтоўкі, і трусагадоўля, і заключэньне розных умоў і абавязацельстваў, і паездкі за таварамі, і бягучыя справы і інш.

Трэба дамагчыся таксама і таго, каб старшыня быў заўсёды на сваім месцы і быў аддадзены толькі справам паляўнічай гаспадаркі, інакш у выніку будзе тое, што „таргавалі кірпічом і асталісь не пры чом". Спрабавалі камандзіраваць у Маскву за таварамі справавода праўленьня, але і гэта вышла нязручна, бо ўстанова заставалася на доўгі час без працаўніка, наведвальнікі скардзіліся. Калі-ж камандыраваць крамніка, дык краму трэба зачыніць. Адным словам „ня ідзе Хадора за Ягора ды і ўсё"...

Але ад чаго ўсё гэта выходзіць? А ад таго, што ў нас абіраюць на якую-небудзь адказную і патрабуючую адпаведных ведаў і здольнасьцяй пасаду гэтакім чынам: патрэбэн, напрыклад, старшыня.—Раю Вам, таварышы, у старшыні т. Шыла—кажа хто-небудзь дзядзька.—Хто супроць? Хто ўстрымаўся? Ніхто?—Прынята аднагалосна! Ну хоць бы хто крыкнуў: „у бок табе шыла, дай лепш Кірдзягу!" Ніхто. А тым часам усе ведаюць, што Шыла не падыходзіць, і потым толькі праз год, пры справаздачы на агульным сходзе гэтаму Шыла ўстаўляюць ва ўсе бакі сапраўднае шыла, а ён толькі круціцца, выкручваецца, кажучы: „я вас не прасіў, каб вы мяне абіралі!.."

Але жарцікі ў бок, а пара ўжо, даўно пара, наладзіць нашу паляўнічую справу як належыць, а то неяк выходзіць, што яна заўсёды ў нас аднабокая, заўсёды кульгае, калі не на абедзьве нагі, дык на адну абавязкова, ды і самае праўленьне наша „ні ў горадзе Іван, ні ў сяле Селіфан“. Хвост выцягне—нос увяз, нос выцягне—хвост увяз!..

Трэба, па-першае, каб старшыня праўленьня быў не выпадковы, не паміж іншым, а сталы працаўніка як у ва ўсіх іншых установах, каб ён цікавіўся сваёй справай і каб хоць крыху быў у курсе яе, а па-другое, каб і сябры праўленьня існавалі ня толькі для ліку, а для дапамогі старшыне і паляўнічай гаспадарцы. Бо гэта не пачэсная пасада, а працавітая, не для таго яны абіраюцца, каб толькі сядзець на крэслах у час пасяджэньняў, а для адпаведнай працы!

**Я. Ш.**

# ШТО РОБІЦЬ БЯГОМЛЬСКАЯ РАЙМІЛІЦЫЯ?

За апошні час у паляўнічым запаведніку ўчасьціліся выпадкі забойства ласёў, баброў, падпал леса, самавольная пастава жывёлы, зьнішчэньне глушцовых гнёзд і інш. Усяму гэтаму патурае **Бягомльская raйміліцыя** і іншыя сьледчыя і судовыя органы. Пра гэта сьведчыць цэлы рад прыкладаў, з якіх трэба застанавіцца хаця-бы на некалькіх:

18-IX—31 г. у бракан'ера в. Разьліцьця **Сушко** за паляваньне ў запаведніку была ўзята стрэльба і перадана Бягомльскай райміліцыі. Але апошняя зараз-жа гэту стрэльбу зьвярнула таму-ж Сушко.

Другі прыклад. Пры адносіне ад 7-VIII—31 г. за № 1156 кіраўніцтвам запаведніку накіраван тойжа райміліцыі матар'ял аб забойстве мядзьведзіцы гр-м Маладуалецкага сельсавета **Радзевічам**, але райміліцыя на гэтым справу і скончыла.

29/VII—31 г. былі пасланы той-жа міліцыі матар'ялы пра падпал лесу ў запаведніку гр-м Чырвоная Губка **Квяцінск'м**. Але і гэту справу яна палажыла, мусіць, пад „сукно“, як і папярэднія.

26-VIII—31 г. за № 1218 у Бягомльскую райміліцыю наглядчыкам запаведніку была накіравана аднятая стрэльба таго-ж самага гр-на **Квяцінскага**, які бракан'ерайчаў па запаведніку. Аднак міліцыя стрэльбу зараз-жа зьвярнула бракан'еру і апошні на адлегласьці 1,5 клм. ад свайго хутара **забіў лася**. Пры зробленым 24/V—32 г. вобыску ў **Квяцінскага** знойдзены лосёвыя рогі, адсечаныя тапаром ад чэрапа і косьці, а на месцы забойства знойдзены скура і ногі.

Наступны ня менш агідны выпадак здарыўся 26 красавіка на рацэ Бяроза каля в. Бярэзіно. Пад кіраўніцтвам **ст.** рабочага Дарбуду гр-на в. Бярэзіно **Захарэвіча,** з удзелам шасьці рабочых, кійкамі забіт бабёр. Ня менш шкодзяць бабрам і рыбацкія арцелі, як напрыклад, **рыбацкая арцель в. Паліка.** Яна прабралася ў запаведнік на вурочышча **„Глухое возера“** і застанавіўшы нанач мярожы, распалажылася начаваць на бабровай хаце, паклаўшы на ёй вогнішча, у выніку чаго хата спалена.

Ня стрымліваюцца шкоднікі і перад такімі мерамі шкодніцтва, як падпал лесу, што мела месца 19 мая ў **Бядзінскай лясной дачы,** у якой гр-н х. Пераходцы **Хацкевіч,** самавольна пасучы жывёлу, падпаліў лес, у выніку чаго дзяржаве нанесены страты на суму 5 тысяч 822 руб.

Шкоднікі-бракан'еры не пакідаюць у супакоі і пярнатую дзіч. 26 мая г. г. гр-н х. Цярэшкі **Крывёнак**, таксама самавольна пасучы жывёлу ў запаведніку, раніў глушыцу і забраў яйкі з двух глухаровых гнёзд, а 16 мая пастух калгасу 1-га мая **Матусэвіч** таксама забраў яйкі з глухаровага гнязда.

Усе гэтыя абураючыя факты маюць месца толькі таму, што мясцовыя сьледчыя і судовыя органы не прыдаюць зусім ніякае ўвагі ахове і размнажэньню паляўнічай фауны.

А выходзячы з гэтага мы настойліва просім вышэйшыя сьледчыя і судовыя органы (Пракуратуру, РСІ і інш. зацікаўленыя арганізацыі і ўстановы), зьвярнуць увагу на пададзеную вышэй справу і зрабіць свае вынікі. Бо неаднаразовыя звароты кіраўніцтва запаведніку да адпаведных раённых арганізацый, застаўленыя без належнага рэагаваньня, красамоўна гавораць аб тым, што на справу аховы заказьніку глядзяць праз пальцы і райміліцыя і пракуратура, РСІ. Больш таго сваімі паводзінамі (асабліва міліцыя) патурае дзейнасьці і злосных шкоднікаў, і бракан'ераў, і хуліганаў.

**Жанеўскі.**

Ад рэдакцыі. Не адзін раз ужо пісалася ў нашай часопісі аб непарадках у запаведніку, між тым мясцовая ўлада не зьвяртае на гэта ўвагі. Рэдакцыя „ПБ“ просіць РСІ зацікавіцца гэтым пытаньнем.

Рэд.

# Яшчэ раз пра ягады і грыбы

„Разгортваньне таваразвароту і правядзеньне прынцыпу гаспадарчага разьліку ва ўсёй гаспадарчай рабоце зьяўляюцца важнейшым стымулам для выяўленьня ў нашай гаспадарцы вялізарных і далёка яшчэ поўнасьцю ня выкарыстаных унутраных рэсурсаў, якія там ёсьць і якія будуць садзейнічаць ускарэньню росту сацыялістычнага накапленьня і ўмацаваньня матар'яльнай базы ўсяго сацыялістычнага будаўніцтва“.

Гэта вытрымка прыведзена з рэзалюцыі 17 партканфэрэнцыі, якая ясна габорыць аб тым вялізарным значэньні, якое надаецца выкарыстоўваньню ўсіх унутраных рэсурсаў краіны. Адным з відаў такіх, поўнасьцю нявыкарыстаных рэсурсаў, зьяўляюцца ў нас грыбы і ягады. Між тым, на гэту работу, на работу па загатоўцы грыбоў і ягад у мінулым ня было зьвернута дастатковай увагі з боку ўсёй сыстэмы паляўнічай каапэрацыі, ня глядзячы на тое, што паляўнічыя масы вельмі цікавяцца гэтай работай, цікавяцца мець яшчэ адну крыніцу прыбыткаў да свайго бюджэту, і ня раз ужо выказвалі гэтую думку на старонках паляўнічага друку. Але яшчэ і дагэтуль у нашай каапэрацыі у яе кіруючых органах, існуе шкодная думка, што ягады і грыбы—ня наша справа. Няма чаго тлумачыць, што гэтая думка ня мае хаджэньня ў шырокіх колах паляўнічых мас, бо ўсякі паляўнічы, які мала-мальскі разьбіраецца ў будаўніцтве нашай сацыялістычнай паляўнічай гаспадаркі, ведае, што для гэтага будаўніцтва патрабуюцца сродкі, як гэта было ўжо гаворана вышэй, а гэтыя сродкі можна знайсьці, выкарыстоўваючы ўсе ўнутраныя рэсурсы краіны. Апрача таго, наш паляўнічы, асабліва паляўнічы, які пражывае ў сельскай мясцовасьці, мае вялізарны прыбытак на працягу большай часткі году ад збору ягад і грыбоў. Хто мае права пазбавіць нашага паляўнічага, яго сям'ю гэтага прыбытку? А ці не зьяўляецца роўналежным гэтаму тое, што вось ужо некалькі год, як паляўнічыя патрабуюць арганізацыі загатовак ягад і грыбоў паляўнічай каапэрацыяй, а яна ўсё адмаўляецца?! Аб гэтым трэба падумаць. Паляўнічыя маюць права патрабаваць ад сваёй каапэрацыі такой работы, якая-б адпавядала іх інтарэсам, інтарэсам сацыялістычнага будаўніцтва, такой работы, якая давала-б новыя сродкі для гэтага будаўніцтва, ад чаго ў значнай меры будуць зжыты нашы сучасныя часовыя цяжкасьці ў справе рабочага снабжэньня.

А тым больш неабходны гэтыя сродкі зараз пры пераходзе паляўнічай каапэрацыі на новыя мэтады працы, мэтады разгортваньня вытворчасьці. Толькі поўным неразуменьнем сапраўдных асноў гаспадарчага разьліку можна растлумачыць тое, што некаторыя нізавыя зьвеньні паляўнічай каапэрацыі, у якіх адчуваецца недахоп зваротных сродкаў і сродкаў на будаўніцтва паляўнічай гаспадаркі ў той жа час з поўнай недаацэнкай праходзяць міма загатовак ягад і грыбоў. А заняцца гэтым ёсьць поўная магчымасьць. Саюзным паляўнічым цэнтрам спушчан у гэтым годзе апэрацыйны плян на месцы ня менш як на 15.425.000 рублёў па ўсім Савецкім саюзе. Даволі толькі падумаць над гэтым, папрацаваць, арганізаваць гэтую справу, — збор ягад і грыбоў—і можна будзе мець новыя сродкі на сацыялістычнае будаўніцтва.

У мінулыя гады гэтыя загатоўкі былі бессаромна сарваны. Асноўнай прычынай гэтага была ня толькі абыякавая інэртнасьць нізавых зьвеньняў паляўнічай каапэрацыі, але і Ўсесаюзны і Беларускі цэнтры ня былі зусім падрыхтаваны да гэтай работы, ня была наладжана гэта справа, ня было жывога інструктаваньня, спэцыялістаў і наогул адпаведных кадраў.

У гэтым годзе паляўнічая каапэрацыя павінна прыступіць да загатовак больш падрыхавана і прыступіць да іх своечасова. Своечасова затрэбаваны ад Дзяржбанку патрэбныя сродкі для фінансаваньня грыбной і ягаднай справы. Своечасова спушчаны (саюзным паляўнічым цэнтрам) на месцы апэрацыйныя пляны. Белкахотсаюз павінен прыступіць да заключэньня вокальных дагавароў на пастаўку грыбоў і ягад дзяржаўным і каапэрацыйным спажывецкім арганізацыям. Застаецца ўвязацца зараз за канкрэтную справу. Раённыя т-вы паляўнічых і ячэек павінны аднесьціся да гэтай справы з такой самай сур'ёзнасьцю, як і да пушных і іншых загатовак. Усёй нашай нізавой сеці неабходна мабілізаваць усе сілы на загатоўкі грыбоў і ягад—у пэрыяд вольны ад іншай работы. На аснове сацыялістычных мэтадаў працы—сацспаборніцтва і ўдарніцтва, мы павінны ня толькі выканаць, але і перавыканаць плян загатовак грыбоў і ягад. Яны прынясуць вялізарную дапамогу нашаму сацыялістычнаму будаўніцтву завяршаючага году пяцігодкі.

Ц.



Рыбакі вытрасаюць сеці.

Т. Кляшторны

# На азёрах Лепельшчыны

## 1. Пачынаецца крыху рамантычна

Ці роснай майскай раніцай, ці ў поўдзень зморны, ці ўвечары, які так рамантычна агорнуты спакоем бэзавага туману, ці ўночку салаў'ную (усёроўна гэта) вы мерыце кілёметры знаёмай ці не знаёмай вам дарогі і позірк ваш не спатыкае ні рэчкі, ні возера люстрынага, ні нават затонаў з паплавамі чароцістымі, тады вам міжвольна пачынае здавацца, што мясцовасьць гэта ня мае вачэй, ёй няма чым паглядзець на вас, няма чым адказаць на ваш маўклівы і выпытальны позірк.

Але вось гэтага ніхто не скажа пра Лепельшчыну, Віцебшчыну і Полаччыну. Бо станьце на любы ўзгорак і на вас з розных бакоў глядзіць мясцовасьць гэта вачыма азёрнымі. Бываюць вочы гэтыя ласкавымі да бяскрайнасьці і гнеўнымі бываюць". Калі ўсходзіць ці заходзіць сонца, калі плывуць на вадапой ружовыя, як макаў цьвет, туманы майскія, тады прырода засыпае і нярухомай становіцца люстраванасьць азёрная. Яна моўчкі пазірае з-пад хмурых брывей гаёў шырокалістых, быццам сталь на каленях соннага вартавога.

Кідай тады паплавок у гэту заспакоеную люстранасьць і да твайго кручка быццам ня хітрая спакуса каханьня з вачэй жаночых, паплыве вялікая і малая рыба розных парод і гатункаў.

Але калі разгуляецца па лесе віхор, загудзе рэха баравое, калі нахіляцца да долу тонкія, як струны, сосны, каб можа ў астатні раз пацалаваць зямлю за тое, што яна карміла і паіла іх,—тады азёры палыхнуць хвалямі гнеўнымі.

Аднак усё гэта рамантыка, а можа нават болей фантазія нашага брата-пісьменьніка. На самай справе ня было ў гэтых азёр, што мы вачыма цэлай мясцовасьці называем, ні ласкавасьці такой і бур такіх, ня было і таго, каб зьвярнулі на іх увагу сваю гаспадарнікі раённыя. І рыбалоўныя арцелі, якія шмат гадоў там назад заснаваліся, а свае традыцыі вядуць мусіць ад цара Гароха нічому лепшагу не навучыліся, як толькі эксплёатаваць азёры (тут я гавару выключна пра Лепельшчыну, хоць думаю, што гэта пасуе і да Полаччыны з Віцебшчынай).

Ды і рамантыка—рэч другарадная: ні пад совусам, ні фаршыраванай, ні смажанай не падасі рамантыкі гэтай на стол. Зусім іншая справа—лешч, карп, што сваёй луской срабрыстаю ганарыцца, ці плотка залацістая, якая любіць берагі чыстыя ды пяшчаныя і расьце да 2-х кілё. Вось гэта сапраўдная рамантыка і ёй не цагрэбуе ніводная рабочая сталоўка.

## 2. А цяпер пагаворым пра рыбалоўныя арцелі

Некалі жыў на сьвеце нехта Мэір. Прозьвішча яго не памятаю, ды гэта не так ужо важна. Ведалі яго, як Мэіра, і ў Віцебску, і ў Полацку, і ў Лепелі, ведала яго і ўсё навакольнае сялянства. Ён быў першы рыбным каралём—арандаваў ад паноў бадай усе мясцовыя азёры. У пэўныя часы году ён аб'яжджаў са сваім невадам усе азёры (а іх больш сотні там), меў у пэўных пунктах лядоўні, у любы час году пастаўляў у гарады сьвежую, адборную замарожаную рыбу.

Ня Мэірава справа была клапаціцца аб разьвядзеньні дарагіх і самых прыбытковых гатункаў рыбы—ён арандатар! Пра гэта павінны былі думаць „гаспадары". А „гаспадаром" клопат вялікі, што робіцца на азёрах.

Быў тады ў Мэіра спадручным нехта Васіль Халімонінка. Прапрацаваўшы колькі гадоў з Мэірам Васіль стаў ня толькі яго правай рукой, а нават хаўрусьнікам рыбнае справы і сам на роўных правох з ранейшым гаспадаром стаў арандатарам азёр Лепельскіх.

За сваё арандатарства Васіль набыў практыку як лавіць рыбу—ён першы рыбак па раёну!

У Васіля ёсьць свае правыя рукі—спрытныя рыбакі. І вось некалькі гадоў таму назад арганізоўваецца з гэтых „спрытных рук" рыбалоўная арцель.

Зараз там не адна арцель. Рыбакі ўсе спрытныя, спрактыкаваныя, нават нежывую рыбу ў сеці заганяць. А вось традыцыі ва ўсіх гэтых арцелях—ранейшыя, Мэірскія: усе яны дбаюць толькі пра тое, каб лавіць рыбу, а пра плянавую рыбную гаспадарку ім зусім мала клопату.



Выпадзе год, што на пэўным возеры слаўна ловіцца рыба: гэта значыць, што якая-небудзь парода дарагой буйнай рыбы трымаецца берагоў, ну і пашоў гуляць тады невад. Потым праз нейкі час размовы чуеш:

— На Дзявіччы зьнікл лішчы.

— На Чаросаве няма больш залацістай плоткі.

— На Востраўне мала ліноў і г. д.

Гэтым справа не абмяжоўваецца. Няма таго, каб якую-небудзь пароду рыбы адразу вылавілі цалкам. Хоць што, але застанецца. У гэтым можна пераканацца ў часе яе нерасту.

І вось пачынаецца нераст—гэты шлюбны вясновы танец рыб. Мясцовыя рыбакі, якія сушаць свае трыгубіцы ды брэдні і адчынена і хаваючыся (гэта значыць зарэгістраваныя і незарэгістраваныя) не прапусьцяць гэты выпадак. Пачынаецца драпежніцкае зьнішчэньне рыбы.

Рыба навадняе мястэчковыя рынкі. На яе не хапае спажыўца. Псуецца рыба. Рыбай кормяць сьвіней. Рыбу зьнішчаюць направа і налева.

Калі ў паляўнічай гаспадарцы больш-менш вытрымліваюцца правілы паляваньня да сэзону паляваньня—рэдка пачуеш стрэл у лесе! Дык рыбакам закон ня пісан. Дзе-ж тут рыбалоўныя арцелі, дзе-ж тут кантроль?

У некаторых азёрах зьніклі ляшчы, у некаторых ня стала ліноў; нават у нераст і то гэтыя пароды рыб паказваюцца рэдка. Я не бяру на сябе ролю прапаноўваць тут што-небудзь пэўнае, але я стаўлю пытаньне ў парадку абмеркаваньня, я кажу, што рыбалоўным арцелям варта было-б падумаць над гэтым!!

Чаму-б на тых азёрах, дзе бадай зьнікаюць пэўныя пароды дарагой рыбы не забараніць веснавую лоўлю трыгубіцамі да таго часу, пакуль гэтыя пароды не аднярасьцяцца? Чаму не прывабіць рыбу на свой шлюбны танец да больш выгодных берагоў і не адгарадзіць гэтыя берагі ад шчук і акунёў—ня даць гэтым драпежнікам зьнішчаць маладую рыбку?

Рыбакі ўмеюць прывабляць рыбу і яны прываблююць. Усьцілаюць бераг хворастам і каля гэтага хворасту кішма-кішыць рыба ў нераст. Але прываблюецца рыба не для таго, каб даць ёй нармальна данераставаць, прываблюецца—каб яе зьнішчыць потым.

Трыгубіцай наогул ці варта дазваляць веснавую лоўлю ва ўсіх азёрах, а яшчэ горш, калі мы дазваляем лавіць гэтым спосабам кожнаму, каму ня лень і не змагаемся, як належыць, з тымі трыгубіцамі, якія сушацца скрытна. На вялікіх азёрах пэўныя пароды рыб трымаюцца свайго пэўнага берагу. І вось, калі гэта ловіць арцель і яна зацікаўлена ў плянавасьці сваёй гаспадаркі, дык сеці ня будуць паласкацца на топях тых пород рыб, якія яшчэ не аднераставалі. У такіх выпадках і па такіх вазёрах зусім магчыма вясновая лоўля трыгубіцамі.

Рыбакі добра ведаюць пра гэта, але не адна арцель ня ўнесла гэтага пытаньня на абмеркаваньне, не паклапацілася, каб ня зьнішчаць дарагія пароды рыб у нераст. А некаторыя пароды рыб нерастуюць да паловы лета.

Ліноў шмат разнавіднасьцяў і нераст іх цягнецца ўсю вясну і большую палову лета. На тых азёрах, дзе ліноў за апошнія гады павылавілі, па майму варта было-б на нейкі час забараніць лоўлю мярожамі (нератамі)—у мярожы бадай выключна лезе толькі лін.

Арцелям яшчэ далёка да гэтага. У арцеляй ёсьць значна большыя прыклады безгаспадарчасьці і нядбайства. Мне прынамсі вядома, што **НЕСІНСКАЯ АРЦЕЛЬ** падпісвае ўмову з якім-небудзь Яхімам Яхімавічам, ці Іванам Іванавічам на эксплёатацыю 5—6 азёр трыгубіцамі. Такі спрытны Іван Іванавіч мае ні адну трыгубіцу, а 2—3 і ў дадатак да гэтага мае яшчэ брэдзень (ва ўмову значная частка сяцей ня ўносіцца). **Умова абавязвае такога Ванюшку здаць усяго якіх-небудзь паўтары цэнтнэры рыбы.** Праўда, ва ўмове ёсьць і агаворка, што калі ён зловіць больш, то таксама павінен здаць арцелі за вядомую плату. Але ўсе гэтыя



агаворкі і сама ўмова ня выконваюцца. Трыгубіцы такога Івана Іванавіча ходзяць не па тых вазёрах, якія ўказаны ва ўмове, а па тых, дзе іх чакае большы ўлоў. Арцель хоць і ведае, што такі трымаўца ўмовы даўно адлавіў сваіх паўтары цэнтнэры і рыбу збывае дзе хоча, але маўчыць. Маўчыць перш за ўсё таму, што Іван Іванавіч свой чалавек, а па-другое таму, што яму няма дзе дзяваць нават сваёй рыбы, у яго няма альбо мала лёду, каб адправіць гэтую рыбу куды-небудзь у пралетарскія цэнтры. Засолка рыбы амаль ня робіцца.

### 4. Скалыхнецеся гневам Лепельскія вазёры

Пачынаючы свой нарыс я ўжо гаварыў, што бываюць азёры ласкавымі да бяскрайнасьці і гнеўнымі бываюць. Азёрам ёсьць чаго і ёсьць на каго гневацца. Ускалыхнецеся гневам Лепельскія азёры!

А вы раённыя гаспадаркі, ня гневайцеся на мяне за гэты нарыс, ня гневайцеся і вы рыбалоўныя арцелі. Вазьмеце лепш лічнікі ды палічыце. Палічыце, колькі ў вас га воднай плошчы, а колькі напалову зарослых вадазбораў. Калі лянуецеся лічыць на лічніках—на пальцох палічыце, пальцаў у вас ня мала... А палічыўшы водную плошчу—падлічыце колькі б гэта тысяч тон можна было б адпраўляць пралетарскім цэнтрам кожны год сьвежай, першагатунковай рыбы, каб у глыбокіх ды пяшчаных вазёрах Лепельшчыны плаваў срэбрысты ці залаты карп, каб прагульваўся там каля наскіх чаротаў і трысьця фарэль і каб па берагох гэтых вазёр былі абсталёваны штучныя гадавальнікі рыбы? Лічыце!!

Пакуль што вы ня маеце чаго лічыць. У вас нават і тое, што ў рукі трапляе, марна гіне! У вас няма цяпер лёду, каб адправіць гораду сьвежую рыбу!—Паглядзім, ці будзе ў вас узімку лёд?!..

Ускалыхнецеся гневам Лепельскія вазёры! Патрабуйце, каб на вашай люстранай паверхні і на саракасажоннай глыбіне прагульваліся дарагія, буйныя пароды рыб! А калі агорнецца лёдам ваша люстраванасьць, дык хопіць лёду ня толькі, для Лепельшчыны, а для ўсіх лядовень сусьвету!



Выбіраюць рыбу

Клім Грыневіч

# РЭСПУБЛІКА

Над краем уздымаюцца груды цаглін
Муры вырастаюць
Штодзеннасьцю
пругкай...
Абшар Беларусі
электрам
заліт
І рэйкі
Нямеюць у спараных рухах.
Я чую
жыцьця усхвалёваны
пульс
І бачыцца мне
на балотах
Затопных:
Шацілаўца
Буйнага
кусьціцца
пук...
І іскры вянкамі
шугаюць
ад топак...
Высока у неба
урастаюць
Муры,
І коміны фабрык
Дым сьцеляць
у просінь.
Пра нашу Рэспубліку
Слава
агнямі
гарыць
І зданьню
Блукае
па панскіх
пракосах...
Эпохі прайдуць...
І пажараў,
І войнаў;
І рэкі шырока
чырвоных
сьцягоў
разьліюцца...
Ад чорнай Жэневы,
Бэрліну
і Коўны —
Суцэльным агнём
Праімчыць
рэвалюцыя.
А покуль —
у Жэневе
дыміцца іпрыт
І Коўна пад крызісам
цяжкім
Галосіць...
...Пра нашу рэспубліку
Слава агнямі
Гарыць
І зданьню
блукае
Па панскіх
пракосах...
Над краем уздымаюцца
Груды
цаглін
Муры вырастаюць штодзеннасьцю
пругкай..
Абшар Беларусі
электрам
заліт
І рэйкі нямеюць
у спараных
рухах...
Эпоха праходзіць
як сонечны
май,
Жыцьцё наліваецца
Пругкасьцю
сілы...
Рэспубліка!
Я слухаю голас
настойных
каманд
І множу на трое
рашучасьць.
І пільнасьць.
Я чую жыцьця усхвалёваны пульс
І бачыцца мне
На балотах
затопных:
Шацілаўца
буйнага
кусьціцца
пук
І пырскі
вянкамі
Шугаюць
ад
топак.

13-II-32 г.
Менск.

---

**У рэдакцыю паступае шмат скаргаў на неатрыманьне часопісі. Рэдакцыя паведамляе, што падпісчык, неатрымаўшы якога-небудзь нумару часопісі павінен зьвярнуцца пісьмова ці асабіста ў тое паштовае агенцтва, куды здадзена яго падпіска.**

# ШТО ПАВІНЕН ВЕДАЦЬ ПАЛЯЎНІЧЫ

Паляваньне набліжаецца. Засталіся лічаныя дні і таму паляўнічы павінен падрыхтавацца да паляваньня.

Акрамя ўсіх маіх пажаданьняў я больш за ўсё хачу сказаць як павінен падрыхтаваць паляўнічы сябе і сваё знаражэньне наогул, каб выйсьці на паляваньне з добрым і верным боем сваёй стрэльбы.

Мець стрэльбу яшчэ мала. Са стрэльбай трэба ўмець яшчэ абыходзіцца.

Паляўнічы павінен паставіць за правіла не запускаць стрэльбу, а прыводзіць у парадак пасьля кожнага паляваньня, асабліва вычышчаць ствалы. Чысьціць ствалы заўсёды трэба аднятымі калі толькі магчыма, ад казённай часьці. Для чысткі прыгодна пакля (без кастры), яшчэ лепш—ільняныя ачоскі і баваўняна-папяровыя канцы ці якія-небудзь трапкі, толькі-б матар'ял быў чысты, бяз пылу і пяску. Вельмі зручны для чысткі, асабліва пры бяздымным шроце з яго слабым налётам, марлевы бінт у 4,5 см. шырыні (вяршковы), які прадаецца ва ўсіх аптэках.

Каб паскорыць чыстку ствалоў трэба прамыць ствалы халоднай вадою (пасьля чорнага пораха), потым гарачай вадой, а пры ўжываньні нітрапораху (бяздымнага)—проста гарачай. Які-б ня быў нагар, вада адмые яго зараз-жа, і потым застаецца толькі працерці ствалы трапкай, накручанай на шомпал. Выціраць трэба да-суха, што і пакажа трапка на шомпале, калі стане сухой.

Пры чыстцы ніколі ня трэба ўпіраць ствол у падлогу, бо шомпал з трапкай дзейнічае як насос і будзе ўцягваць у ствол пясчынкі, што заўсёды бываюць на падлозе, у выніку чаго ствол будзе псавацца. Ніколі ня трэба давяраць чысьціць сваю стрэльбу другому, асабліва паслужлівым гаспадарам, у якіх вы застанавіліся. Цёртая цэгла, пясок, попел—сродкі, якія пускаюць у справу несьвядомыя людзі.

Пасьля стрэлаў у сухое надвор'е стрэльба можа заставацца нячышчанай некалькі гадзін, а то і да раніцы. Але калі ў ствалы магла трапіць вада, дык стрэльбу трэба прачысьціць магчыма хутчэй. Інакш на ствалох утворацца плямы, ці, як кажуць, „ракавіны". Плямы гэтыя вялікай бяды не даюць, але стрэльба прымае няпрыемны выгляд і, акрамя таго, шмат хто думае, што гэта—ямкі, выедзеныя іржой, бо яны сапраўды здаюцца паглыбленьнямі. „Ракавіны" значна зьніжаюць каштоўнасьць стрэльбы пры продажы. Але, калі ў ствале завяліся плямы, ніколі ня трэба чысьціць іх наждаком, ці чым іншым,—для боя і моцнасьці яны няшкодны, а зьняўшы мэталь ствала наждаком, пемзай, можна зусім сапсаваць бой. Трэба між іншым сказаць, што ў сучасны момант ёсьць стрэльбы з сапраўднымі „ракавінамі" ў ствалох. Гэта стрэльбы, якія былі доўгі час ў зямлі. Ад пакупкі такіх стрэльбаў трэба ўтрымлівацца.

Адпраўляючыся на паляваньне, заўсёды трэба ўзяць з сабою праціручны матар'ял і бічоўку з пятлёй пасярэдзіне для ўмацаваньня яго (зразумела тады, калі вы выехалі на паляваньне далёка ад дому), а яшчэ лепш шчаціннную шчотку з дастаткова цяжкім грузікам на адным канцы. Такім „вяровачным шомпалам" можна лёгка і хутка прачысьціць стрэльбу ад засьмечаньня і нават досыць грунтоўна вычысьціць яе і змазаць.

Памылкова думаюць, што бяздымны порах шкодна дзейнічае на ствалы і патрабуе вельмі старанай і маруднай чысткі. Гэта датычылася да ранейшых бяздымных порахаў; цяперашнія-ж бяздымныя порахі наадварот, даюць лёгка ачышчаемы, слабы налёт і для чысткі нічога, акрамя звычайнай сухой трапкі, не патрабуюць.

Калі патрэбна зайсьці ў дом ці цёплае натопленае памяшканьне ў зімні час, ніколі ня ўносьце стрэльбу, якая зараз жа запацее. Але калі вы зайшлі ў кватэру, стрэльбу з марозу адразу трэба пакласьці пад падушку, ці цюфяк, ці шчыльна абкруціць чым-небудзь саграваючым, ня вымаючы нават з чахла (калі ў чахле). Праляжаўшы гадзіну, бяз доступа цёплага паветра, стрэльба „адыйдзе" і будзе зусім сухая.

Калі ў ствалох будуць заўважаны блёсткі сьвінца, пасьля шчыльных прачыстак, ці цёмныя сьляды—значыць, ёсьць сьвінцоўка ў ствале. Каб пазбавіцца яе, трэба патраціць мінут 10—20. Лепш за ўсё для гэтага ўзяць калібэрную, ня туга ідучую па ствалу шчотачку з мяккага сталёвага ці меднага дроту, густа змазаць патрэбным маслам і, хутка праціраючы ўзад і ўперад, добра саскрэбці ўвесь сьвінцовы асадак, які звычайна бывае блізка каля патроньніка, і ў „чока". Калі няма такіх шчотак, можна ўзяць жорсткую шчотку з шчаціны альбо проста туга і доўга накруціць на палку паклю ці што іншае і добра змачыўшы ў скіпідары (якім ніколі нельга карыстацца для змазкі мэханізма, замкоў і затвора) хутка і моцна праціраць ствол.

Калі няма скіпідара—можна ўзяць якую-небудзь другую ня вельмі густую змазку.

Пасьля прамыўкі вадой і праціркі насуха, трэба, калі стралялі нітрапорахам, добра праціраць на працягу некалькіх мінут шчоткай, пакляй і інш., добра змазваючы вазэлінам, газай ці скіпідарам, а пасьля змазкі, пакласьці стрэльбу ў сухім месцы да другога дня.

Змазкай ва ўсіх гэтых выпадках можа служыць чыстае несалёнае ялавічае, напрыклад, сала, разьведзенае мінэральным маслам ці нават газай. Але найлепш і зручней за ўсё—жоўты вазэлін. Пры нітрапорахах лепш карыстацца, калі ёсьць магчымасьць, асобнымі шчолачнымі змазкамі, якія прадаюцца пад назваю: „ньюарк", „нітроль", „піроль", „балістоль", „ормаз".

Пры чыстцы стрэльбаў з рухомым затворам (бярданак, фраловак і інш.) трэба час ад часу разьбіраць і прачышчаць затвор. У цэнтральных-жа стрэльбах разьбіраць замкі і затворы ніколі ня трэба. Асабліва ня трэба разьбіраць мэханізмаў браўнінгаў—частая няспраўнасьць іх работы тлумачыцца тым, што ў мэханізм лазілі нявопытныя рукі.

Мэханізм браўнінга досыць грубы і моцны, а таму ніякая іржа для яго ня страшна і для таго, каб ён спраўна працаваў, досыць адной добрай змазкі. Толькі перад стральбой на моцным марозе мэханізм павінен быць прамыт бэнзынам і пакінут сухім ці змазаным асобнай ня гусьцеючай на марозе змазкай.

У мароз, сьнег, у сырое надвор'е, пры паляваньні на вадзе трэба і зьверху абціраць ствалы прамасьленай трапкай. Яшчэ лепш—пакрыць іх тонкім слоем воску. Для гэтага адну частку воску разбаўляюць у трох частках мінэральнага масла (напрыклад, вазэлінавага ці касьцянога), ці ў скіпідары, ці нават у бэнзыны і потым, узяўшы гэтай змазкі на трапку, выціраюць зьверху ўсю стрэльбу, апрача датыкаючыхся часткаў-кручкоў затвора і т. д.

Калі няма воску, можна ўзяць папалам вазэлін (жоўты) і чыстае ялавічае сала. Гэта змазка якасьцю ніжэй васковай, але ўсё-ж лепш аднаго вазэліна.

Калі ўрэзка замкоў у дрэва ня зусім дакладная і шчыльная, дык для захаваньня іх ад пападаньня ў сярэдзіну вады і пылу карысна вацерці зазоры разагрэтым жоўтым воскам.

Замкі, што маюць сьпіральныя баявыя спружыны (як бярданкі, трохлінейкі і г. д.) нават пры лёгкай змазцы ў марозы пачынаюць даваць асечкі. Таму у час зімовага паляваньня іх трэба добра выцерці ад змазкі, прамыўшы бэнзынам ці газай і зьлёгку змазаць толькі апошняй.

Хаваць стрэльбу, калі з яе доўгі час ня прыходзіцца страляць (напрыклад, у забаронены час), лепш за ўсё сухімі нязмазанымі ствалам, часьцей іх аглядаючы.

Толькі калі змазка добра выпрабавана і надзейна, можна хаваць стрэльбу і змазанай. Справа ў тым, што пад дрэннай змазкай іржа можа разьвівацца, а заўважыць яе будзе цяжка.

Як адна знадворная чыстата не дае каню адпаведнага (іграючага) цела і сілы (патрабуецца правільная норма корму), так і стрэльба патрабуе правільных зарадаў для сваёй сілы (боя). А каб даць стрэльбе правільны зарад, трэба ўмець заражаць патроны. Недастаткова купіць мерку па калібру сваёй стрэльбы і карыстаючыся ёю заражаць патроны. Трэба ведаць, што бой стрэльбы залежыць ад пораху, шроту і ад таго, як патрон заражан. Усё гэта патрабуе ўважлівых адносін да сябе і ўменьня.

## Порах

Порах падзяляецца на чорны і бяздымны. Чорны порах—танны, можа хавацца у добрым стане хоць сто год, толькі-б не адсырэў, добра адмерваецца меркай, добра запальваецца ўсякім пістонам, нагар яго мала шкодзіць ствалу, да спосабаў разражэньня ён мала адчувальны, пры павялічаных зарадах дае адпаведныя павялічэньні ціску і хуткасьцяй. Хоць і гаворацць, што чорны порах аджывае свой век і будучае належыць бяздымным порахам, але пакуль што чорны порах ня страціў сваёй распаўсюджанасьці і займае пануючае становішча. Пакуль што на ім трэба спыніцца.

Для кароткіх ствалоў, а таксама для ствалоў, тоўстых у казённай частцы, але вельмі тонкіх ў сярэдніх частках ствала, выгадней браць, як раяць знаўцы, дробны, г. зн. хутка згараючы моцна ўзрыўчаты порах. Калі-ж порах буйны, дык трэба паскараць яго гарэньне, бяручы больш моцныя пістоны, больш тугія і тоўстыя пыжы, мацней закручваючы гільзы. У супраціўным выпадку выгадней паступаць наадварот. Усё, што ўзмацняе супраціўленьне зараду, паскарае гарэньне пораха. Калі порах тусклы, матавы, мае зьліпшыя камкі, можна думаць, што ён быў сыры. Зерні яго павінны лёгка расьціскавацца паміж пальцамі і моцна пэцкаць іх. Калі, акрамя зерняў заўважаецца і парахавы пыл, трэба яго адсеяць.

Выбіракчы зарады пры чорным пораху на вагу, кіруюцца наступнай табліцай па А. А. Зярнову:

| Калібры | Зарады (у грамах) | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Слабы | | Сярэдні | | Моцны | |
| | Шрот | Чорны порах | Шрот | Чорны порах | Шрот | Чорны порах |
| 12 | 33 | 5,5 | 34,5 | 5,75 | 36 | 6 |
| 16 | 27 | 4,5 | 28,5 | 4,75 | 30 | 5 |
| 20 | 21 | 3,5 | 22,5 | 3,75 | 24 | 4 |

Пры адсутнасьці грамавай разнавагі можна карыстацца бронзавымі (ня меднымі) манетамі, маючымі наступную вагу:

1 кап.—1 грам, 2 кап.—2 грамы і г. д.

Са шроту № 7 (дыямэтрам у 2,5 мм) можна падабраць 10 драбінак, якія досыць дакладна важаць адзін грам. Гэтым можна карыстацца пры адважваньні дзесятых доляй грама. Аднак, няма патрэбы карыстацца вагай пры заражэньні патронаў. Вага і рознавага патрэбны бываюць толькі пры падборцы зараду і пры падгонцы меркі. Гэта ня толькі ў адносінах да чорнага пораху, але і бяздымнага, калі зарады бяздымных порахаў прызначаны для мэт паляваньня (дапусьцімасьць адмерваньня ўказваюць шмат якія фірмы). Бяздымны порах патрабуе захаваньня наступных правіл:

1. Не страляць невядомым бяздымным порахам, атрыманым невядомым адкуль, выпадкова і інш.

2. Строга прытрымлівацца ўказаньняў заводу, якія знаходзяцца на ўпакоўцы пораху ці на ўкладзеных у сярэдзіну лістках.

3. Не хаваць порах у вельмі гарачым ці вельмі сырым месцы.

4. Не страляць порахам вельмі старога вырабу (10—15 год), асабліва калі невядома, які і дзе ён хаваўся.

## Шрот

Добры шрот павінен мець правільную форму, мець гладкую і добра адпаліраваную графітам паверхню. Ён павінен быць добра адсартыраван, г. зн. усе драбіны аднаго нумара павінны быць аднолькавай велічыні, інакш нельга дабіцца добрага бою. Перавага аддаецца так званаму „калёнаму" шроту (назва не дакладная). Цьвёрдасьць шроту (закал) надае прыбаўка мышшаку ў прапорцыі ½ процанта. Цьвёрды шрот менш сьвінцуе ствалы, лепш ламае косьці пры ўдары і ў агульным дае лепшы бой, асабліва пры вялікіх зарадах і пры чокавай сьвярдлоўцы. Аднак, занадта цьвёрдымі, напрыклад, стальнымі, шарыкамі страляць нельга. Горшы сорт шроту „сьвістун", як называюць яго ў шмат якіх мясцох. Гэты шрот ніжкай якасьці, мае няправільную форму

кулькі, то іграшападобнай, то конуснай і ўвесь мае накол (не скразную дзірачку). Шрот такі ляціць з вялікім сьвістам і калі прыгодны, дык толькі па маладняку на кароткіх дыстанцыях і толькі крайнасьць прымушае карыстацца ім.

Пры доўгім хаваньні у сырым месцы шрот можа акісьляцца з паверхні (белавата-матавы налёт) і гэтым псавацца.

Шрот разьлічаюць па нумарох, пры чым адзінства нумароў няма. Лепшы шрот і старэйшая нумарацыя—англійская. Ёсьць нумарацыя нямецкая, заводу „Охотник" (Ленинград) і заводу Всекохотсаюза ў Маскве.

Англійская нумарацыя: ААА, АА, А, ВВВ, ВВ, В, 1, 2, 3, 4, 5, 5½, 6, 6½, 7, 8, 9, 10, 11, 12, 13, 14, Нямецкая: 5/0, 4/0, 3/0, 2/0, 0, 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12. Завод „Охотник" (Ленинград) 6/0, 5/0, 4/0, 3/0, 2/0, 1/0, 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10.

Заводу Всекахотсаюзу ў Маскве: 6/0, 5/0, 4/0, 3/0, 2/0, 1, 2, 3, 4, 5, 6, 6*, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

Дакладнае вызначэньне разьмераў шроту, зразумела, магчыма толькі ці па ўказаньні сярэдняга папярочніка асобнай драбіны ці па ліку драбін у якой-небудзь вагавай адзінцы, напрыклад, у адным лоце (3 залатніка ці 12,8 грама). Вымяраць папярочнікі лёгка такім спосабам: некалькі дзесяткаў драбін трэба насыпаць у адзін зусім прамы рад, каб драбіны шчыльна прылягалі адна да другой, потым вымераць рад любой меркай і атрыманае падзяліць на лік драбін, што знаходзяцца ў радзе.

### Гільзы

Якасьць гільзы вельмі важна для боя стрэльбы і яго службы. Гільзы прыгатаўляюцца заводамі папяровыя і латунныя. Папяровыя гільзы лёгкія, маюць сапраўдны калібр ствалоў меншы, чым патрэбна для латунных гільз, не патрабуюць абцісканьня пры зараджаньні. Калі іх змазваюць (вазэлінам і інш.) дык яны бываюць мала адчувальны да вільгаці. Папяровыя гільзы падзяляюцца на аднастрэльныя і шматстрэльныя. Аднастрэльныя для аднаго стрэлу, у якіх кавадла зроблена так, што не дае магчымасьці зьмяніць стрэляны пістон і гільза выбывае са строю, будучы яшчэ ў поўнай спраўнасьці.

Шматстрэльная—перазнаражаецца да канчатковага выбыцьця са строю і нярэдка выносіць больш дзесятка стрэлаў. Акрамя ўсяго, папяровая гільза не патрабуе асаблівага догляду (чысткі), амаль не павялічваецца па дыямэтры і ў ёй добра замацоўваецца дробавы пыж.

Латунная гільза тоўстая, цяжкая, дарагая, патрабуе замацаваньня дробавага пыжа заліўкай, не практычна пры стральбе на вадзе (топіцца пры малейшай нязграбнасьці), патрабуе частай чысткі, хутка павялічваецца ў сваім дыямэтры. Хоць перавага яе перад папяровай у тым, што яна ў сярэднім абыходзіцца танней (больш служыць), усё-ж такі папяровая гільза мае сваю практычную перавагу і значна больш распаўсюджана. Даўжыня гільзы вымяраецца мілімэтрамі і залежыць ад даўжыні патроньніка стрэльбы. Стрэльбы сьвердляцца спэцыяльна пад тую ці іншую гільзу, пад той ці іншы разьмер гільзы па даўжыні. Каб ведаць, пад якую даўжыню гільзы ваша стрэльба, трэба расплавіць пэўную колькасьць стэарыну і падвёўшы пробкавы пыж да патроньніку з боку дула, каб пыж спыніўся ў граніцы сьвярдлоўкі патроньніка, што лёгка бачыць вокам з казённага боку, навёўшы на сьвет, уліць стэарын. Застыўшы стэарын выйдзе з патроньніка, будучы націснут шомпалам з боку дула. На ім і будзе ясна відаць даўжыня сьвярдлоўкі патроньніка. Гільза павінна строга адпавядаць дыямэтру патроньніка, даўжыні яго і павінна захоўвацца ў поўным парадку.

### Капсулі ці пістоны

Капсулі ці пістоны служаць для ўспалымленьня зарада пораха. Для шомпальнай стрэльбы пістон павінен быць ня вельмі вялікі, каб не зваліцца са шпілька (з цыліндра, як гавораць на вёсцы) і ў той час надзявацца павінен вольна. Вельмі зручны тоўстыя пістоны, „гранёныя", г. зн. з нарэзкаю ўздоўж бакавой паверхні. Яны не разрываюцца на асколкі, а раскрываюцца па гэтых нарэзах.

Для стрэльбаў цэнтральнага боя капсулей ёсьць шмат узораў. Трэба выбіраць з іх тыя, што падыходзяць да формы гнязда ў гільзе: шчыльна ўваходзяць у гняздо. Не прапускаюць назад газаў, даходзяць саставам да кавадла.

Калі ўзрыўчаты састаў у пістоне добра закрыт не паперай, а алавянай фольгай, і добра залакіраван шоўкам, дык ён не баіцца вільгаці і не дае асечак, нават праляжаўшы некалькі дзён у вадзе, калі потым высушан.

З нашых пістонаў самыя моцныя—ваенныя, вінтовачныя.

Ранейшыя ваенныя (бярданкі) вельмі прыгодны для чорнага і надта слабыя для бяздымных пораxаў. Яны адрозьніваюцца пукатым дном. Калі пістон вельмі тоўсты і таму цяжка разьбіваецца курком, як гэта бывае з ваеннымі пістонамі ў паляўнічых стрэльбах, можна зрабіць яго больш адчувальным, некалькі сьпілоўваючы падпілкам ці тачылам, як донышка, каб яго паслабіць, так і краі, каб ён лепш сеў на кавадла.

### Пыжы

Ня кожны ведае, што ня меншае значэньне, чым порах, на эфэкт дзеяньня стрэлу маюць пыжы. Якасьць іх на бой стрэльбы мае вялікі ўплыў. Парахавы пыж не павінен прапускаць парахавых газаў у дробавы знарад, інакш гільзы прывядуць знарад у непарадак і сапсуюць бой. Акрамя таго пыж сваёй пругкасьцю зьмякчае штуршок парахавых газаў і тым памяншае шкоднае зьмяцьце шроту. Нарэшце, сваім супраціўленьнем першаму руху знараду з месца, ён паскарае ўспалымленьне пораху. Добры пыж павінен быць прыгатаваны са шчыльнага, пругкага, але ня жорсткага лямцу, у меру абсален па цыліндрычнай паверхні ня вельмі цьвёрдай асалкай і пры сьцісканьні яго паміж пальцамі прымаюць форму бачонка. Нікуды ня варты пыжы, нарубленыя з лямцу, склеенага з двух слаёў, а таксама з зусім мяккага, дрэннага лямцу, падобнага ўжываемаму пад штукатурку. Наогул пыж павінен быць лёгкі, шчыльны, упругі, не ўспалымняючы, ня ўтрымліваць цьвёрдых, царапаючых ствол, частак, нарэшце, павінен зьлёгку, але ня моцна змазваць ствол. Па таўшчыні, папярочніку і вазе пыжы павінны быць як можна аднастайней, правільнай формы, не касабокія.

Лепшыя пыжы—англійскія „Элея“, але і ў нас цяпер вырабляюцца досыць добрыя пыжы. Нядрэнныя пыжы можна вырабіць самім, здабыўшы добры лямец і прыгатаваўшы па жадаемаму калібру, прасечку. Асалка пыжоў робіцца па наступных рацэптах: 1) 40 частак стэарыну, 4 воску і 3 несалёнага сьвінога сала; 2) 4 часткі стэарыну і адна частка сала; 3) 2 часткі стэарыну і 1 частка вазэліну (часьці—вагаю); добрыя вынікі даюць пыжы пры прапітваньні іх летам проста воскам, зімою 1/3 воску і 2/3 несалёнага ялавічага ці бараньняга сала. Прапітваць пыжы растопленым на патэльні саставам можна, пракатваючы нанізаныя на нітку пыжы па тонкім слаі асалкі, каб асаліць толькі бакі.

У якасьці парахавога пыжа мае значнае ўжываньне корак (пробак) як паказваюць вынікі вопыту, корак зьяўляецца зусім нягодным матар'ялам; ад корку трэба адмовіцца, у якасьці парахавога пыжа.

Дробавы пыж неабходны ня толькі каб не прасыпаўся шрот: ён бязумоўна значна паляпшае „осыпь“. Але яго ўплыў ўсё-ж меншы, чым парахавога. Ён павінен быць магчыма лёгкі, не павялічанага калібру (паколькі гільза гэта дапускае) і ня тоўсты. Самыя лепшыя—прасаленыя лямцавыя, аклееныя тонкай паперай (для надпісу № шроту і г. д.), пыжы таўшчынёй 2½—3¼ мм, потым кардонныя, каля 1½ мм. таўшчыні. Пры тоўстых-жа латунных гільзах лепшыя вынікі дае значна павялічанага калібру, не асалены і не аклеены пухкі лямцавы пыж, таўшчынёю ў 11-13 мм ці павялічаны коркавы—6-7 мм таўшчынёй.

Ціск парахавых газаў можа павялічвацца ці памяншацца на 40—50 і больш процантаў, у залежнасьці ад якасьці як парахавых, так і шротавых пыжэй. Ад якасьці пыжэй таксама значна мяняецца і рэзкасьць, і кучнасьць, і раўнамернасьць боя. З гэтага відаць, які ўплыў мае пыж на бой і якую ўвагу трэба ўдзяляць пыжу.

## Знаражэньне гільз шротам

Перш чым прыступіць да знаражэньня гільз трэба памятаць, што вы маеце справу з выбухаючымі матэрыямі, значыць бярэцеся за небясьпечную справу і для сябе і для акаляючых вас. А таму трэба спачатку падрыхтавацца і тады толькі брацца за гэтую апэрацыю.

Небясьпечна для сябе ў некаторай ступені і выемка пістонаў з стрэляных гільз, як гэта ня дзіўна. Здараецца так, што гільза дала асечку, вы разрадзілі яе, г. зн. высыпалі шрот, порах, паклалі ў стрэляныя гільзы і забылі пра гэта. Ці проста ў стрэляныя гільзы трапілі незаражаныя, з нястрэлянымі пістонамі. Пачынаеце выбіваць пістоны тут-аж перад нахіленым тварам і раптам выбух. Калі вынуты пістоны—гільзы павінны быць вычышчаны і тады толькі трэба ўстаўляць новыя пістоны. Устаўку пістонаў я ўтвараю з дапамогаю драўлянага малатка; два тры лёгкіх ўдары, пістон садзіцца на месца, тады як ад прыцісканьня рычагом „барклая“ ўціскаецца часта дно гільзы.

Стрэляныя гільзы (і медныя і папяровыя) трэба перад знаражэньнем праверыць спэцыяльным каліберным кольцам. Папяровая гільза хоць і не раздаецца, як латунная, пасьля стрэлаў, але яе часам вельмі расьпірае пасьля зарадкі. Таму трэба праверыць другі раз каліберным кольцам, няма кольца—проста ўкладаючы ў патроньнік стрэльбы.

Знаражэньне гільз (патронаў) трэба рабіць так: пустая гільза з высыпаным ў яе зарадам пораха ставіцца на падстаўку, уяўляючую сабой дошчачку ці брусочак з круглай выемкай на дне гільзы і са скразной дзіркай у цэнтры выемкі, большай чым дыямэтр пістона. На порах закладваецца тонкі папяровы пыж калібрам роўна па ўнутраным дыямэтры гільзы, а на яго 1 ці 2 лямцавых пыжы.

Калі порах бяздымны, дык лямцавы пыж падбіраецца па дыямэтру чуць-чуць больш унутранага дыямэтра гільзы так, каб яго можна было бяз цяжкасьці закласьці проста рукамі. Пыж толькі давозіцца да пораха і ні ў якім выпадку не прыбіваецца (толькі „Глухарь“ патрабуе шчыльнага націску). Калі порах чорны, дык пыж трэба браць калібры на два больш і прыкалаціць яго 2-3 лёгкімі ўдарамі драўлянага малатка. Зьверху шроту, калі гільза папяровая, кладзецца тонкі папяровы пыж і гільза закручваецца з дапамогаю асобнай прылады, якая называецца „сэртыссэрам“ (закрутка, як звычайна называюць). На закрутку трэба пакідаць ня больш 7 мм пры бяздымным пораху, пры чорным 4 мм. Калі-ж застаецца больш (што часта бывае пры невялікіх зарадках бяздымных порахаў), то трэба класьці паўтара-два лямцавых пыжы на порах. У гільзы даўжынёю ў 70 мм пры нармальных зарадах бяздымнага пораху заўсёды зьмяшчаецца 2-2½ лямцавых пыжы. Закрутка не павінна мяць канца гільзы, а роўна і гладка заварачваць яе край і прыціскаць яго шчыльна да пыжа. Але-ж настолькі, каб краі зьмяліся на пыжы. Калі для закруткі мала месца, дык лепш узяць больш тонкі пыж на шрот. А калі вельмі многа—узяць таўсьцей парахавы пыж, як толькі што было сказана, ці два абавязкова аднолькавага калібра, але ня класьці другога ці тоўстага на шрот, што звычайна і робяць паляўнічыя. Адважваць порах і шрот няма патрэбы для паляваньня (для прыстрэлкі неабходна адважваць). Аднак выверыць мерку трэба па вазе, не давяраючы надпісам на мерках. Напоўненую мерку ні ў якім выпадку ня трэба ўстрахваць, а толькі зрэзаць лішак той-жа заражаемай гільзай, у якую ўсыпаецца порах.

Шрот трэба насыпаць прама на парахавы пыж. Каб раўнамерна ён лёг у гільзе—трэба зьлёгку яго ўстрахануць пасьля насыпкі. Калі здарыцца ў адзін зарад укладваць шрот двух розных нумароў, дык буйны нумар павінен быць зьверху.

Папяровай прыкладкі класьці пад шрот зусім непатрэбна, а калі дазваляе месца, дык карысна пакласьці палову таннага мяккага пыжа, кружок з



На прывале

сукна і інш. Такая пракладка зьмякчае ўдар, якія атрымлівае шрот у момант выбуху парахавога зараду; шрот менш зьмінаецца і таму правільна ляціць (менш расьсейваецца) і менш траціць хуткасьць (больш рэзка б'е).

Вопыт даказаў, што лепшы бой даюць з кожнай стрэльбы тыя нумары шроту, якія правільна, больш менш суцэльным радам, укладваюцца ў дуле стрэльбы (ня ў гільзе). Вызначыць гэта лёгка: трэба ўставіць папяровы пыж у дула крыху ніжэй краёў вылету (пыж не павінен быць зьмяты) і потым накласьці слой шроту. Калі шрот роўна, бяз пустоты, ня ўкладваецца, лепш гэты нумар замяніць суседнім з таго ці другога боку, г. зн. драбней ці буйней, які пры спробе ўложыцца добра. Такі „ўзгодненны" са стрэльбай шрот дае кучнасьць процантаў на 5-7 больш. Асабліва важны такі падбор для карцечы, якую трэба акуратна падбіраць і класьці абавязкова поўным радам. Калі ёсьць лішняя, лепш яе кінуць, не хапае—дабавіць. Надзвычайна важна пастаноўка ніжняй гільзы наогул, бо няправільна пакладзены пыж рэзка зьніжае бой. Адны міраццa з недасканалым чатырохперым „барклаем", маючым тоўстыя, сагнутыя ў сярэдзіну пласьцінкі, другія мнуць пальцамі пыж, уводзячы яго ў гільзу, трэція, ніколькі не падумаўшы пра якасьць прыбора, асаджваюць драўляным малатком на два калібры (а то і больш) павялічаны пыж, ня рэдка занадта прапітаны сумесьсю воску і стэарыну. Ужываць барклай з унутранымі пласьцінкамі можна толькі пры ўжываньні зусім мяккіх непраклееных пыжоў. Ва ўсіх астатніх выпадках, асабліва-ж маючы справу з пыжамі, аклеенымі вельмі цьвёрдай паперай (хоць бы толькі з аднаго боку) „барклай" не апраўдвае сваё прызначэньне.

Замест „барклая" ўжываюць вельмі нескладаны прыбор, галоўная перавага якога ў тым, што ён прыгодны для кожнай гільзы, незалежна ад яе даўжыні, другая перавага—у поўнай адсутнасьці непатрэбных пер'еў, трэцяе—непрацiўленьне пыжу, які добра праходзіць у гільзу без зьмяненьня свайго сапраўднага разьмеру, чацьвертае—у зручнасьці—насіць у кішэні (заражай дзе і калі хочаш) пятая—у выключнай таннасьці і т. д. Робіцца гэты прыбор з жалеза, медзі і нават дрэва.

Будова яго наступная: бярэцца медная ці жалезная трубка даўжынёю ў 4—5 сант., таўшчынёю каля 3 мм; унутраны дыямэтр трубкі павінен быць роўны дыямэтру меднай гільзы. Потым трубка з аднаго боку растачваецца прыблізна да паловы даўжыні на таўшчыню гільзы для таго, каб яе можна было надзяваць на адкрыты канец гільзы. Значыць, трубка павінна шчыльна ахапіць гільзу, якая даходзіць да простакутнага пляча трубкі. У гэтым становішчы канал трубкі і канал гільзы павінны быць зусім аднолькавыя; трубка не павінна быць шырэй гільзы, каб пыж уваходзіў у апошнюю, не дакранаючыся да сьценак гільзы і, наадварот, пыж не павінен праскакваць у гільзу з вузкай часьці трубкі. Рух пыжа пры пераходзе з трубкі ў гільзу не павінен адчувацца. Застаецца некалькі растачыць верхні канец трубкі, каб у яе вольна ўваходзіў пыж павялічанага калібру. Можна замест расточкі—расьцягнуць верхні канец трубкі да неабходнага дыямэтра. Драўляныя трубкі робяць больш тоўстымі. Служаць яны добра і вельмі доўга. А карыстаюцца прыборам гэтым так: пасьля запаўненьня гільзы (гільза павінна быць у гняздзе дошчачкі ці брусочка) у гільзу ўводзіцца пальцамі пракладка, дасылаемая навойнікам, а потым пасьлядоўна надзяваючы на кожную гільзу прыбор, дакладна прыгнаны па ўнутранаму папярочніку гільзы, палачкай-навойнікам устаўляюцца парахавыя пыжы. Пасьля насыпкі шроту паўтараецца тое самае. Гэты-ж прыбор можа быць прыстасаван і для папяровых гільз, для чаго расточка канала трубкі—яе ўнутраны дыямэтр павінен быць некалькі меншы, прымаючы пад увагу таўшчыню паперы не аднолькавую ў розных сартох.

Загонка парахавога пыжа ў стрэляныя папяровыя гільзы часам патрабуе папярэдняга выпраўленьня іх. Для гэтага трэба зьмятыя закруткай краі гільзы апусьціць на хвіліну ў гарачую ваду з невялікай колькасьцю крухмала. Выпраўленыя шчыльна ўваходзячым навойнікам гільзы, высыхаюць, прыняўшы першапачатковую цьвёрдасьць, што важна для паўторнай закруткі. Зрэзаць краі гільз, зразумела, ні ў якім выпадку нельга.

Надзвычайна добры бой стрэльбы (рэзкасьць і кучнасьць) дасягаецца з дапамогаю канцэнтратараў-укучніцеляў. Аднак карыстацца імі трэба ўмела і ня усім давяраць. Надзейны і добры бой дае адзін з самых простых канцэнтратараў—колца Ланкастэра. Гэта проста колцавы адрэзак папкавай гільзы каля паўдзюйма ў даўжыню (12 мм). Для 12 калібра бярэцца адрэзак гільзы 16 калібра. Колца гэта пры ўмелым і акуратным заражаньні значна павялічвае рэзкасьць і процантаў на 40 і больш—кучнасьць і дае роўны бой. Але гэта прыгодна выключна для ствалоў сапраўднай, але не па назьве толькі, цыліндрычнай сьвярдлоўкі, а не для чокаў, і пры тым добры бой атрымліваецца ад колцаў, зусім павольна ўваходзячых у дула стрэльбы, амаль праваліваючыхся ў яго. Для латунных гільз колца гэта няпрыгодна, а таксама і з бяздымнымі порахамі яно дзейнічае куды горш. Найлепшыя вынікі колца Ланкастэра дае пры парахавым пыжы некалькі павялічанага калібра.

У заражаную порахам, лепш буйным, гільзу ўсыпаецца на пыж зарад шроту, потым зьлёгку ўсоўваецца колца і ўганяецца да краёў гільзы, потым прыстаўляецца навойнік, гільза пераварачваецца—уверх (у такім палажэньні добра ўтрасаецца шрот) і потым у такім-жа палажэньні колца са шротам уганяецца ў гільзу, шчыльна ахватваючы частку дробавага зарада; пасьля гільза пераварачваецца, зьверх колца ўкладваецца і шчыльна прыціскаецца шротавы пыж, а гільза шчыльна закручваецца. Ніякі чок ня можа раўняцца па бою з правільна заражаным колцам Ланкастэра. Канцэнтратары такія свабодна можна самому клеіць.

Каб палепшыць бой чока, трэба перасыпаць шрот крухмалам. З аднаго хунта (400 грам) крухмалу выходзіць каля 150 патрон 12 калібра. Калі ўсыпан шрот, у гільзу зьверху насыпаецца крухмал, адтуліна гільзы заціскаецца вялікім пальцам правай рукі, націскаючым увесь час на крухмал, а левай—пастукваюць па гільзе навойнікам, пакуль насыпаны на шрот крухмал не праваліцца ў сярэдзіну шротавага зараду. Тады насыпаюць яшчэ крухмалу і паўтараюць гэту апэрацыю да таго часу, пакуль зьверху шроту не застанецца слой мукі, пасьля кладуць шротавы пыж і закручваюць гільзу.

Заражаныя гільзы, паказаным парадкам і паказаным прыстасаваньнем, гарантуюць чыстату боя.

Трэба было-б сказаць аб знаражэньні шомпалак, але, па-першае, гэтых стрэльбаў зараз вельмі мала, а па-другое (галоўнае) уласьнікі іх так прывыклі да „харча" сваіх шомпалак, што наўрад ці згодзяцца з якімі-небудзь указаньнямі, якія зьмянілі-б іх „меркі" ў большасьці на-вока, перайшоўшыя да іх ад бацькоў па традыцыі.

### Стральба

Сказаць як страляць птушку на ляту, г. зн. даць вернае практычнае ўказаньне, нельга. Стральба па рухомай мішэні—стральба нялёгкая і залежыць ад шмат якіх момантаў. Тут і хуткасьць, і напрамак мішэні, і адлегласьць, і сіла ветра, і ў якіх умовах знаходзіцца стралок, ці ён стаіць на цьвёрдай глебе, на адкрытым месцы, ці ў кустох, ці плыве ў лодцы, ці сарвалася птушка ці зьвер папераджальна ці нечакана і т. д. і т. д. Таму параіць дакладна ўменьне стральбы бязумоўна нельга, а можна даць толькі ўзор, па якім ужо сам паляўнічы будзе меркаваць, гледзячы па яго меткаму воку, практыцы. Перш за ўсё паляўнічы павінен цьвёрда памятаць, што з усіх непападаньняў шротам у рухомую дзічь 90 проц. уходзіць пад дзіч. З гэтага—асноўнае правіла: страляй па ўбягаючай ці ўлятаючай дзічы так, нібы ты хочаш страляць праз яе ці перад ёю.

**Ф. А. Лялін.**



Рэдактар—рэдкалегія: **Волдынь, Вільдфлуш, Цэлеш і проф. Федзюшын.**

Адказны рэдактар: **А. Вільдфлуш.**

Заказ № 1766. 12.600 экз. Уп. Галоўлітбелу № А—3.

Друкарня імя Сталіна.

Цана 30 кап.

## ТАВАРЫШ, ТЫ ХОЧАШ ВЕДАЦЬ,

1394

як трэба весьці на калектыўных пачатках паляўнічую гаспадарку? Як арганізаваць калектыўнае разьвядзеньне каштоўных пушных зьвяроў? Як арганізаваць трусятнік? Як выбраць і прыстраляць стрэльбу? Як выбраць сабаку для паляваньня? Якія спосабы паляваньня могуць даць лепшыя вынікі? Дзе жывуць розныя прамыслова-паляўнічыя зьверы і птушкі? Якія іх прывычкі? Якія неабходныя ўмовы, каб іх было больш у паляўнічых угодзьдзях? Чым вы можаце дапамагчы ў справе вывучэньня паляўнічай гаспадаркі? Чым дапамагчы сыстэме паляўнічай каапэрацыі ў хутчэйшай арганізацыі паляўнічай гаспадаркі? Як самому ўключыцца ў работу гэтай галіны?

**НА ЎСЕ ГЭТЫЯ І ДРУГІЯ, ЦІКАВЯЧЫЯ ВАС, ПЫТАНЬНІ ТЫ МОЖАШ АТРЫМАЦЬ ВЫЧАРПАЛЬНЫЯ АДКАЗЫ.**

## ВЫПІСВАЙ НА 1932 ГОД ЧАСОПІС

# „ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ“

Орган прамыслова-каапэрацыйнага саюзу паляўнічых „БЕЛКАХОТСАЮЗУ“.

**САЮЗЫ, ТАВАРЫСТВЫ І ПАЛЯЎНІЧЫЯ ЯЧЭЙКІ!**
Вылучайце арганізатараў падпіскі на нашу часопіс.

У часопісі шырока асьвятляюцца пытаньні паляўнічае каапэрацыі, будаўніцтва калектыўнай паляўнічай гаспадаркі, жыцьцё і норавы зьвяроў і птушак, пушная справа, паляўнічае права, спосабы паляваньня, сабакагадоўля, ружэйная тэхніка. Асобную ўвагу часопіс будзе аддаваць пытаньням будаўніцтва паляўнічай гаспадаркі, калектыўнай пушной зьверагадоўлі і трусагадоўлі, а таксама біолёгіі прамыслова-паляўнічых жывёл, бо веды яе забясьпечваюць пасьпяховасьць паляваньня і паскараюць тэмп сацыялістычнай рэканструкцыі паляўнічага промыслу ў рацыянальную паляўнічую гаспадарку.

**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**

| | |
|---|---|
| на 1 год | 2 р. 40 к. |
| на паўгода | 1 „ 20 „ |
| на 3 мес. | — 60 „ |

На меншы тэрмін падпіска не прымаецца.

У 1932 годзе ў часопісі мяркуецца адкрыць спэцыяльны аддзел, асьвятляючы пытаньні рыбаводзтва і рыбалоўства.

Падпіску і грошы накіроўваць: Менск, Кіраўніцтва сувязі, або ў бліжэйшае паштовае аддзяленьне.

Адрас рэдакцыі: Менск, Савецкая 68, выдавецтва „Калгасьнік Беларусі“.

